
СОНЬКА →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Невядомы Райск →9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 13 (3072) Год LX Беласток, 29 сакавіка 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вікторыя Віктара — 90!



■ Злева: Славамір, Анна, Віктар і Наталля ШВЕДЫ. Фотарэпартаж Міры ЛУКШЫ

## Глядзіце іншыя юбіляры — Віктар Швед зняў акуляры!

— склала вершык літаратурная кампанія Міра-Вапа, вучняў свайго настаўніка. За чарговае дзесяцігоддзе Віктар змяніўся толькі ў тым, што пазбавіўся заўсёдных навочнікаў. І памаладзеў. Урачыста святкавалі мы мінулую ягоную дэкаду ўсёй беларускай грамадой. Маем два вялікія святы ў сакавіку — Дзень Волі і дзень нараджэння нашага роднага паэта. Хвіліну пасля папярэдняга юбілею нарадзілася «пакаленне ЯП II», а з Віктарам Шведам нарадзіліся цэлыя пакаленні беларусаў у Польшчы. А за тое наступнае працавітае дзесяцігоддзе ён пісаў, друкаваўся, сустракаўся, ездзіў з творамі і за мяжу, выступаў у фільмах... Да 3030 вершаў «даехаў» у друку, свежых, новых, для падмацавання нашага сэрца і духу. Варажэнькам і зайздроснікам на скруху: «Запрашаю вас на сваё стагоддзе, спадзяюся, што і вы будзеце?..».

22 сакавіка ў Цэнтры ВААКу сабраліся мы адсвяткаваць юбілей Віктара Шведа.

(лук)

■ Пастычныя віншаванні архіепіскапа беластоцка-гданьскага Іакава. Пажаданні з Кленік у Мора.











■ Гурт «Баламуткі» з ПШ № 4 у Беластоку праспяваў песню «Мы - першакласнікі» на словы Юбіляра



# Міфы пра саміты

Саміт Еўразійскага эканамічнага саюза ў Астане, на які сабраліся лідары Беларусі, Казахстана і Расіі, для большасці жыхароў гэтых краін прайшоў амаль што незаўважна. Не дапамагла нават інтрыга з нібыта праблемным здароўем Пуціна. Не дадаў усенароднай зацікаўленасці і пераное гэтай палітычнай падзеі. Не ўратаваў яго аўтарытэту і найвышэйшы статус яе ўдзельнікаў. Навошта і каму ён увогуле быў патрэбны так і засталося загадкай. Бо і так усім даўно зразумела, што будзе так як захоча Пуцін. І раіцца з кім-небудзь расійскаму лідару няма аніякага сэнсу.

Усё і так ідзе як ён хоча. Сказаў некалі, што перамовы па Украіне павінны весціся з кіраўнікамі ЛНР і ДНР. Тады ўвесь свет захвыў нямым голасам, што аніякія перамовы з тэрарыстамі немажлівыя ніколі і нідзе. І што ў выніку? А ў выніку ўвесь свет ламае зараз галаву, як тых кіраўнікоў легалізаваць, бо перамовы з імі ўжо вядуцца. І пададзены Кіевам сігнал, што перамовы будуць весціся з легітымнай уладай, якую абярэ народ, выглядае як крок адчаю. Бо ўсе добра ведаюць якія там будуць выбары і каго там абяруць.

А Уладзімір Уладзіміравіч ужо захоплены новымі ідэямі. Крым і Данбас для яго ўжо ўчарашні дзень. Яму трэба рухацца далей з той жа ўпэўненасцю і напорам, якія ўзмацняюцца стабільнымі перамогамі, бо ў Крамля ёсць даўно распрацаваны план дзеянняў. І не адзін а некалькі і ў залежнасці ад сітуацыі запускаецца ў ход адзін з гэтых даўно зацверджаных і добра прадуманых варыянтаў, якія маюць адно і тое ж лагічнае завяршэнне — аднаўленне СССР у яго былых межах, а яшчэ лепш у межах дарэвалюцыйных. Будзе гэта пад эмблемай вялікай расійскай імперыі ці пад назвай Еўразійскага эканамічнага саюза гэта ўжо не так важна. Сутнасць застаецца той жа. Таму на Украіне прымяняецца вайсковая сіла, а ў Беларусі і Казахстане пакуль усё ідзе гладка і без яе. Праўда, на ўсялякі выпадак беларусам нядаўна нагадалі, што ўсходнія землі Беларусі ў Расіі лічаць «исконно русскими». Хутка так скажуць і пра тэрыторыі заходнія. Ну а пакуль што абмяжоўваюцца масавай раздачай чырвоных савецкіх сцяжкоў, георгіеўскіх стужак, самітамі, і стварэннем невыносных умоў пражывання, каб жыхары сінявокай самі сталі прасіцца ў Расію, бо там будзе крыху лягчэй.

І першыя вынікі гэтай палітыкі ўжо ёсць. На сённяшні дзень беларускія прадпрымальнікі толькі і гавораць пра тое, што ў Расіі бізнес весці яшчэ можна, а вось у нас амаль немажліва. І што ім больш даспадобы расійскае заканадаўства, а не сваё родненькае. Хто ім падкінуў такую думку здагадацца нескладана. А вось хто падрыхтаваў пад гэта глебу? Не думаю, што кіраўніку беларускай дзяржавы патрэбныя вось такія небяспечныя думкі айчынных прадпрымальнікаў. Не думаю, што ён пра іх увогуле ведае. А вось тыя людзі, хто падрыхтоўваў і даваў яму на подпіс гэныя дакументы, якія абцяжарылі жыццё рыначнікаў, думаю, што добра ведалі, якія планы яны рэалізоўваюць і што насамрэч стаіць за нібыта чыста эканамічнымі зменамі.

Тое самае можна сказаць і пра ўжо амаль гатовы ўказ пра так званых «тунеядцаў». Бо калі ў цябе будзе расійскае грамадзянства, то ніхто з цябе грошы здзіраць за дармаедства не будзе. Ну а калі грамадзянства беларускае, то сам вінаваты, што не паспеў памяняць пашпарт на расійскі. Логіка тут нескладаная і жалезная. І куды будзе падзецца беларусам? Здабыць які еўрапейскі пашпарт, як паказала сітуацыя на Украіне, справа не такая простая. Еўропа не спяшаецца для ўкраінцаў хоць бы тыя няшчасныя візы адмяніць, не гаворачы пра ўваходжанне ў Еўрасаюз. А Расія і пашпарты гатовая прадставіць, і ўсёй краінай забраць, а можна і дробнымі часткамі.

Таму нашым людзям зараз нічога добрага ні ад якіх самітаў чакаць не прыходзіцца. І цікавасці тыя саміты ў людзей таму і не выклікаюць. Наеліся ўжо тых інтэграцый. І эканамічных, і палітычных. Зусім нядаўна ім абяцалі залатыя горы ад стварэння Еўразійскага эканамічнага саюза. Асабліва прадпрымальнікам. Якія з гэтага атрымаліся горы ўсе пабачылі. Яны яўна не з золата. Яны з таго, з чаго і рабіліся, і дзеля чаго рабіліся. Бо ад самага пачатку выконвалі даўно зацверджаны ў Крамлі план аднаўлення СССР.

Віктар САЗОНАЎ

# Самы вялікі дранік у свеце



Бульбяны дранік, які спяклі ў мінулую суботу ў Беларусі, павінен быў быць найвялікшым з найвялікшых, што дае яму права на запіс у кнізе рэкордаў Гінеса. Ён павінен быў быць, як я сказаў, але на самой справе, гэта не так. Сапраўды гэтак жа, як і з абяцаннямі Лукашэнкі, які гарантуе, што пры яго праўленні будзе штораз лепш, а становіцца ўсё горш. Калі гаворка пра дранік, ён на самой справе мераў каля двух метраў у дыяметры — значна больш, чым яго знакаміты папярэднік, які быў толькі ў 62 см. Былі для яго выкарыстаны 30 кг бульбы, 6 кг мукі і 60 яек. Увогуле, падрыхтоўка яго невядомай колькасцю кухараў заняла пяць гадзін працы. Толькі што ўсе іх намаганні аказаліся марнымі. Таксама, што і для мільёнаў беларусаў, якія, не шкадуючы свае сілы і энтузіязму, памнажаюць нацыянальны даход краіны — толькі што множыўшы сваю працу праз... нуль. Нуль інавацыйнасці, нуль прадпрымальнасці, нуль свабоднага рынку, а калі гаворка пра грамадзянскую свабоду — нават квадратны нуль. Дзяржава, на думку ўлады, мае быць ва ўсім дзяржаўная. Так і належачая да яе зямля, дамы, сродкі вытворчасці, а таксама сама праца грамадзян, у тым ліку самі грамадзяне. А ўлада такая як дзяржава.То-бок, Аляксандр Лукашэнка.

Вяртаючыся да драніка, па дадзеных інтэрнэт-партала штотыднёвіка «Наша ніва», можа быць ён містыфікацыяй. Напэўна, складаўся ён з некалькіх дзесяткаў невялікіх, каля 20-сантыметровых дранікаў, аб чым упэўнена нельга сказаць, таму што велізарная патэльня пакрыта была — які жах! — векам. І хто смажыць бульбяныя аладкі пад пакрыўкай! Гэтае драматычнае і балючае ў наступствах пытанне кірую да нейкай спадарыні Веры, якая была адказнай за каманду кухараў. Без сумневу, радасныя аладачкі, прыгатаваныя маёй мамай — залаціста-карычневага колеру, храбусткія звонку і ўнутры мякусенькія і захапляючыя пачуцці водарам часнаку і цыбулькі — падушыліся б ад сораму, калі б іх пакрываць вечкам пры смажанні. Я не думаю, аднак, што турбавала гэта спадарыню Веру, нібыта чэмпіёнку кухні з 40-гадовым вопытам працы. На яе загад, каб задыхнуўся бульбяны дранік — таму што не ўсмажыўся ён пад векам, патэльню і яе змесціва перадалі ў нябачнае месца, недаступнае для гледачоў. Як мяркуецца, там устроілі яго ў смачныя дадаткі. У той час, па словах журналістаў «Нашай нівы», магло дайсці да абману — прастору паміж разможанымі на патэльні бліныамі запоўнілі чыпсамі (?), зелянінай, агуркамі і шчодра падлілі смятанай. Гатовы твор паказалі ўсяму свету і гледачам ва ўсёй яго ўражваючай велічыні. Уражальнымі тэмпамі блін быў спажыты, у большасці асабліва прагаладалымі асобенямі ўмяшанымі ў тлум звычайных гледачоў. А тыя, якія не пакаштавалі рэкорднага драніка, маглі задаволіцца танцамі і спевамі, якія суправаджалі падзею. Беларускі дзяржаўны тэлеканал не прамінуў праінфармаваць аб гэтым грамадскасць, падкрэсліўшы, што бульбяны дранік лічыцца найбольш важнай стравай у Беларусі на дзень раўнадзенства. Іншымі словамі, страва мае вельмі сімвалічнае значэнне.

Дранік-рэкардсмен, гігант сярод бліноў ва ўсім свеце, спечаны менавіта ў першы дзень вясны, меў бы быць асаблівым сімвалам, звязаным, як вясна, з надзеяй і радасцю. Такім чынам, адзін серфер, кантуючы біццё рэкорду Гінеса ў галіне бульбяных аладкаў, прызнаў Аляксандра Лукашэнку «самым вялікім дранікам у Беларусі». Іншая здагадаліся, каб павесіць яго (рэкордны дранік) на шыі спадара прэзідэнта. На жаль, выказалі здагадку запозна. Дранік, без належнага гонару кіраўніку дзяржавы, быў трывіяльна зжэрты, а разам з ім усе доказы на яго сімвалічную трываласць. Не кажучы ўжо пра доказ таго, што ён быў на самой справе найбуйнейшы ў свеце і, што горшае, поўнай адсутнасцю павагі згаладалага грамадства да прэзідэнта Беларусі. Ужо аб гэта задбала дзяржаўнае тэлебачанне, якое той канфуз прыкрыла зусім так, як цётка Вера тушаныя бульбяныя аладкі, якія ўдавалі бульбяное адзінства пад металічнай покрыўкай.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# У пушчу без віз, але ...

Без віз можна будзе з чэрвеня наведаць беларускую частку Белавежскай пушчы. У пачатку сакавіка адпаведны ўказ быў падпісаны прэзідэнтам РБ Аляксандрам Лукашэнкам. Згодна з ім замежнікам будзе дадзена магчымасць прабываць там на працягу трох дзён, перасякаючы мяжу на пагранпераходзе Пераровў-Белавежа. Указ быў выдадзены «ў мэтах павышэння эфектыўнасці выкарыстання аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры Нацыянальнага парку „Белавежская пушча" і далейшага развіцця трансгранічнага турызму». Падставай для бязвізавага рэжыму будзе спецыяльны дакумент, які трэба будзе прадставіць пры перасячэнні мяжы. Згодна з указам, Саўмін у трохмесячны тэрмін павінен распрацаваць і зацвердзіць яго форму. Тады стане вядома, хто будзе яго выдаваць і на якіх прынцыпах.

Прэс-служба прэзідэнта Лукашэнкі дадала, што з ліку 150 тысяч турыстаў, якія штогод наведваюць польскую частку Белавежскай пушчы, значная частка выказвае жаданне адначасова наведаць і беларускі Нацыянальны парк „Белавежская пушча". Звернута была ўвага на спадзяванне, што ў выніку павелічэння патоку замежных турыстаў Нацыянальны парк атрымае дадатковую выручку ў суме 27,4 мільярда рублёў, а гэтае рашэнне дасць магчымасць не толькі павысіць эфектыўнасць выкарыстання турыстычнай інфраструктуры, але і паслужыць росту турыстычнай прывабнасці і міжнароднага іміджу Беларусі. Аб увядзенні бязвізавага рэжыму для замежнікаў, якія наведваюць пушчу, сказаў у першыя дні года начальнік галоўнага консульскага ўпраўлення МЗС у Мінску Ігар Фісенка. Адказваючы на пытанне як замежны грамадзянін дакажа, што едзе менавіта ў Белавежскую пушчу, запэўніваў, што білет можна будзе купіць у інтэрнэце ці набыць на месцы:

— У пушчы ёсць пункт пропуску, які можна перасекчы на ровары або пешшу. Гэта ўжо будзе пытанне прымаючага боку як будзе арганізавана наведванне іх мерапрыемства. Напэўна, яны павінны прапанаваць нейкі комплекс паслуг.

Тым часам, таксама ў студзені, падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнік беларускага МЗС Уладзімір Макей заявіў, што генеральна «адмяняць візы для чужаземных грамадзян па ўезду ў Беларусь пакуль не плануецца»:

— Не варта думаць, што калі мы адменім плату за візы, то да нас лінуць патокі замежнікаў. Для гэтага трэба іх зацікавіць. І адмена віз — пытанне важнае, але не вырашальнае.

Уладзімір Макей затым таксама паведаміў, што з некалькімі краінамі вядзецца гаворка аб спрашчэнні візавага рэжыму:

— Можа, і працей адмяніць усе візы, але трэба глядзець з пункту гледжання бяспекі: мы павінны бачыць, хто да нас будзе прыязджаць.

Чаму гаворка якраз пра гэты ўказ — па ўсіх прыкметах — доўга яшчэ да рэалізацыі пагаднення аб малым памежным руху паміж Польшчай і Беларуссю? У размове са штодзёнкай «Gazeta Wyborcza» рэдактар беларускага штотыднёвіка «Турызм і адпачынак» Лілія Кобзік так гэта ацэньвае: «У апошні час рэзка скарацілся лік расійскіх турыстаў, якія наведваюць Белавежскую пушчу, што звязана з эканамічнай сітуацыяй у Расіі. Улады прызналі, што можна замяніць іх заходнімі турыстамі і, такім чынам, паказаўся гэты ўказ».

У сваю чаргу Міраслаў Стэпанюк, дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку, сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Выбарчай»: «Надалей праводзім перамовы з беларускім бокам, таму цяжка гаварыць пра дэталі. Але ўсё паказвае на тое, што ў продажы ваўчараў, якія даюць права на перасячэнне мяжы, мае пасрэднічаць якраз Белавежскі нацыянальны парк».

Пакуль невядома, колькі ваўчар будзе каштаваць:

— Вядома, будзе магчымасць індывідуальных выездаў у Беларусь, але іх аснова такая, што кожная асоба, перасякаючая мяжу на аснове ваўчара, мае мець свайго апекуна. Справа ў тым, каб ніхто там не заблытаўся.

Дырэктар Стэпанюк выразна адзначае, што зацікаўленым беларускай часткай Пушчы не будзе навязвацца канкрэтная праграма тураў ці месца начлегаў, дарэчы, напрыклад, у вельмі дарагіх Віскулях.

Без сумневу, толькі інтэграваныя дзеянні, у тым ліку і на польскім баку мяжы, дадуць магчымасць для прасоўвання Белавежскай пушчы як прывабнага турыстычнага прадукту. Такіх планаў, аднак, польскі бок не мае, а трансгранічны турызм ва ўсіх яго вымярэннях з'яўляецца заложнікам польскай, еўрасаюзнай і беларускай палітыкі.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

**Гэта адна з самых чаканых тэатральна-літаратурных падзей у Польшчы — сцэнічная версія рамана «Сонька» Ігната Карповіча ў яго адаптацыі ў беластоцкім Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі. За рэжысуру ўзялася — між іншым па інспірацыі Лявона Тарасэвіча — дырэктарка тэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур. У галоўнай ролі можна ўбачыць знакамітую актрысу мінскага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Святлану Анікей (старая Сонька, маладая — Кацярына Сергей). Разам з шэрагам мясцовых акцёраў і гасцінна выступаючых у прадстаўленні, іграе іншы, вядомы ўжо гледачам беластоцкага тэатра роляй Тырэсія ў «Антыгоне», акцёр мінскай нацыянальнай сцэны — Алесь Малчанаў. На сцэне з'яўляецца мінскі віртуоз баяна Ягор Забелаў, стваральнік музычнага боку пастаноўкі.**




Святлана Анікей у Случанцы

# Сонька. Перад прэм'ерай

Стваральнікі пастаноўкі абяцаюць у сваіх рэкламных матэрыялах: «Сонька» з'яўляецца гісторыяй з польска-беларускага Памежжа, ваенным раманам, у якім нічога няма сентыментальнага. Выпадковая сустрэча (пры)знанага маладога рэжысёра са старой беларускай пры вясковай падляшскай дарозе прыводзіць да гісторыі, якая пачутая становіцца тэмай ягонага спектакля, «паразітуючага» па гісторыі іншага чалавека. Мабыць, гэтая сустрэча ніколі не адбылася? Мабыць, гісторыя была прыдумана? Спектакль падымае пытанне аб «канібалізме» мастака, аб межах Ісціны і паўсюднага ў сучасным мастацтве прыёму: капіруй-змяні-ўстаў. Гісторыя кранае дзве важныя сферы: надалей неперапрацаванай гісторыі ўсходняй Польшчы (міжкультурнасць, шматканфесійнасць і транснацыянальнасць як рэкламныя слоганы Падляшша, патрабуюць глыбокага перагляду) і пошук новых форм «тэатра памяці» аб свеце, які да гэтага часу не залячыў рану і ў якім не ўдалося вырашыць пытанняў. Свет астракізму, гвалту, сутыкаючыхся нацыяналізмаў, разладу і вайны, якая не была самай горшай з трагедый, «давала сябе палюбіць». Папулярны тэатральны рэжысёр Ігар (сыграў яго акцёр Тэатра эстрады ў Варшаве Рафал Мацьковяк — М. Х.), які раптам апынуўся па-за дасяжнасцю мабільных сетак, становіцца слухачом гісторыі галоўнай гераіні. Адразу ператварае гісторыю бабулькі ў тэатральную пастаноўку, ствараючы сваю ўласную версію падзей. І калі магло б ужо здацца, што ўжо вычарпаў ліміт ідэй, у вясковай хаце яго месца займае Ігнат (ролю іграе таксама Рафал Мацьковяк — М. Х.), аб якім Ігар настойліва спрабуе забыцца...».

Як адзначаюць знаўцы літаратуры, «Сонька» гэта грунтаваная на фактах, «вялікая, але камерная, простая, але нялёгкая, спакойная, але бурлівая эмоцыямі, пацыфісцкая, але адначасова жорсткая гісторыя». Гэты раман быў выдадзены ў траўні мінулага года Літаратурным выдавецтвам. Гэта шосты раман Ігната Карповіча. Як адзін рэцэнзент напісаў, «Сонька» пераносіць чытача ў падарожжа на мяжу паміж рэальнасцю і сном, сучаснасцю і гісторыяй, магічнымай праўдай і мастацкай выдумкай. Аўтар вяртаецца да зямлі дзяцінства, у падбеластоцкую вёску, у ваколіцу Случанкі, дзе ён правёў першыя гады жыцця. Там, у адной з чатырох хат прысёлка Каралёвае Стойла жыве гераіня рамана». Ігната Карповіча да працы над кнігай натхніла інфармацыя калісьці пачутая ад ягонага дзядзькі — Лявона Тарасэвіча. Ён меў згадаць пра жанчыну, аб якой суседзі на працягу дзесяцігоддзяў памяталі і паўтаралі сваім дзецям і ўнукам, што падчас вайны ў яе быў раман з нямецкім салдатам — эсэсаўцам пацыфікуючым ваколіцу, за што яе клеймавалі. «Карповіч гісторыю аб трагедыі нездзяйснення, болю і гадах пакаяння — зрабіў цэнтральным пунктам сваёй кнігі» — звяртаюць увагу рэцэнзенты.

У размове з «Нівай» рэжысёрка спектакля расказвала тыдзень да прэм'еры:

— Часам тэксту шукаю, заказваю пад нейкую тэму. Часам, аднак, ёсць кнігі, якія самі трапляюць у рукі і ніколі ад іх не адарвацца. Справа ў тым, што пра тое «Сонька» ствараецца і аб чым яна будзе, я ведала ўжо ў пачатку мінулага года. У першы дзень, калі яна паявілася, я адразу ж яе прачытала. Я адразу зразумела, што гэта тэкст, які я хачу зрабіць у тэатры. Гэта не толькі таму, што дзеянне адбываецца тут, але і таму, што яе формула вельмі адкрытая. Такі тып некалькіх планаў, якія перакрываюць адзін аднаго, заўсёды спакушае мяне. Акрамя таго, у саму кнігу ўпісаны тэатральны план, які, як гэта ні парадаксальна, як высветлілася ў ходзе рэпетыцый, не спрацаваў на сцэне. У адной з размоў Ігнат Карповіч прызнаўся, што ён хоча сам напісаць адаптацыю і напісаў яе. Аднак, у ходзе рэпетыцый у прынцыпе калектыўна мы стварылі сцэнічную версію тэксту. Канчаткова далёка адыходзіць яна ад таго, што мы атрымалі ад Ігната, пры такім зялёным святле ад яго, што першы тэкст, які даў нам, быў адпраўной кропкай.

На сцэне паяўляецца дзесяць першасных і другасных акцёраў, улічваючы таксама Ягора Забелава, які іграе ўжывую на сцэне на баяне і ўвасабляецца ў ролю ката Ёзіка. Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Калі я раздумвала, як паказаць гора, у якім апынулася Сонька, я прыйшла да высновы, што варта паказаць, што гэта не проста гора звязанае з памяццю, але і паразітызмам, які ўвасабляе рэжысёр што паяўляецца ў гэтай гісторыі. Калі мы спыталіся ў Ігната, чаму ўвогуле «Сонька» ўзнікла, ён сказаў, што Сонька была адзіным чалавекам, які выламаўся з гэтай іерархічнай вёскі, які так моцна ўзбунтаваўся, ідучы за сваёй марай. Калі іерархія такая важная і трэба з яе аж выламвацца, калі астракізм узнікае таксама ад мясцовых жыхароў, таму ў спектакль уведзены дадатковы план — вёскі. Гэта людзі, якія таксама паразітуюць на Соньцы, жывуць яе жыццём, якое абгрунтаванае бунтам супраць яго. Канчаткова на сцэне з'яўляецца дваццаць чалавек і карова (не будзе жывая, як першапачатковa меркавалі — М. Х.).

Рэжысёрка ў час падрыхтовак да прэм'еры падкрэслівала:

— Калі б гэта была проста гісторыя бунту Сонькі, нейкай жанчыны з вёскі, якая закахалася ў немца падчас вайны, верагодна, была б мабыць цікавая, у дадатак да свайго гістарычнага нарысу. Але тут больш цікава тое, што на гэтую гісторыю накладваецца цэлы тэатр памяці, які мы называлі канібалістычным тэатрам, якраз моцна паразітуючым на гісторыях іншых людзей. Для мяне «Сонька» з'яўляецца гісторыяй аб быцці выкарыстоўваным і абдзіранні з чарговых шкарлупін. Самы кранальны ў гэтай гісторыі гэта той адважны жэст, адзіны магчымы, вось тое абдзіранне з сябе Сонькі і Ігара, які становіцца Ігнатам, які прызнаецца, што адрокся ад сябе самога. Адважны, таму што невядома, што там у сярэдзіне. Гэта адна з самых унікальных тэатральных работ, якія мне прытрапіліся ў маім жыцці. Гэтая гісторыя заснаваная на вельмі экстрэмальных эмоцыях, і кожны з нас, ствараючых спектакль, мусіць перанесці ў сабе той жа самы працэс, які прайшоў Ігар у гэтай гісторыі. Сапраўднасць і блізкасць сустрэчы герояў, якіх іграюць Святлана Анікей і Рафал Мацьковяк і іх саміх як акцёраў аж балючая. Гэта сустрэча з найбольшага «С». Завяршаючы працу над «Сонькай», я не буду тым жа рэжысёрам, якім была раней.

У спектаклі са сцэны будзе гучаць трасянка, выкарыстаны вясельныя абрады, узятыя «адсюль» і беларускія песні, якія знайшоў для спектакля Алесь Малчанаў. Спадарыня рэжысёр:

— Гэта песні ў выкананні людзей, якія паходзяць адсюль, хто разумее гэтую гісторыю. Сапраўднасць на сцэне таксама звязана з тым, што гэтая гісторыя тут да гэтага часу балючая. Гэта не любоўная гісторыя пра сустрэчу беларускай дзяўчыны з нямецкім катам, але і пра ўсё, што звязана з кантэкстам гэтага месца.

Занятыя ў спектаклі акцёры і рэжысёрка двойчы наведалі Случанку і Каралёвае Стойла. У рамках падрыхтоўкі спектакля былі таксама ў Крынках. У Случанцы быў зняты кліп, аб'яўляючы пастаноўку (убачыць яго можна на вэб-сайце тэатра). Акцёры мелі тут магчымасць сустрэцца з мясцовымі жыхарамі. Святлана Анікей размаўляла тварам да твару з бабуляй Ігната Карповіча — мясцовай шаптухай. Не рассакрэціла яна зместу размовы. Алесь Малчанаў, які ўвасабляецца ў закаханага па вушы будучага мужа Сонькі, Мішку:

— Калі мы прыехалі ў Случанку, адразу мясцовыя жыхары здаваліся мне як родныя людзі. Не толькі таму, што гаварылі на маёй мове. Там я сустрэў былога настаўніка, які носіць такое ж прозвішча, што і Міша, якога я іграю. Я сеў з ім на лавачку і пачалі мы размаўляць. Калі ён зразумеў, хто я, ён папрасіў прабачэння на хвіліну і вярнуўся апрануты ў куртку, такую больш святочную. Калі мы развіталіся — заплакаў. Калі мы туды прыехалі, усе павыходзілі з хат з такой цікаўнасцю, якую я назіраў у маёй, таксама пражываючай у вёсцы, памерлай два гады таму бабулі на від прыезджага. Яны паводзілі сябе так, як быццам выйшлі туды не проста паназіраць за намі, але ў нейкіх сваіх справах, і было відаць па іх, што яны хочуць з намі паразмаўляць. Гэтая сустрэча дала мне шмат. Можа і Сонька з'яўляецца беларускай, тутэйшай, але напэўна можна ад яе навучыцца і ў гэтым сэнсе яна з'яўляецца чалавекам звышнацыянальнага фармату.

Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— У Случанцы нават запрашалі нас на самагонку. У хаты ахвотна запрашалі. Сонька ніколі не пакідала Каралёвага Стойла як Кант Кёнігсберга. Яе мудрасць бярэцца з кораня, з мудрага ўспрымання вопыту.

Аляксандр Малчанаў:

— Для мяне, рыхтуючы гэты спектакль і маю ролю, важна было, што чалавек, які пераходзіць столькі такіх трагічных момантаў у сваім жыцці, не траціць веры ў іх, мудрасці і ўнутранага святла, можа быць верным сабе. Я зайздрошчу свайму герою, таму што не кожны ўмее так кахаць, як кахаў ён Соньку, хаця тая пакахала эсэсаўца Ёакіма (іграе яго Гжэгаж Фалькоўскі, акцёр Паўшэхнага тэатра ў Варшаве — М. Х.). Але, што больш важнае: каб ты кахаў, ці каб кахалі цябе? Мне здаецца, што каб самому кахаць. Умець кахаць — гэта ёсць талент.

Амаль саракагадовая Святлана Анікей, іграючая амаль 90-гадовую жанчыну, без грыміроўкі, закутаная ў хустку і адзетая ў летнічак:

— Сонька з'яўляецца асобнай планетай, якая знаходзіцца ў бясчассі, у небыцці. Гэта геній любові, дзіця прыроды. У гэтай постаці прыцягвае мяне яе прастата. Сёння вельмі мала пішуць аб так званым малым чалавеку, а такія найбольш ведаюць жыццё. Акцёру вельмі шмат дае блізкасць да гэтых людзей, якія гавораць на сваёй мове, маюць свае традыцыі, свае манеры паводзін. Умеласць назірання за людзьмі з'яўляецца найбольш важнай у маёй прафесіі.

Рафалу Мацьковяку (родам з Аполя) як акцёру давялося ўжо мецць справу з «Сонькай». Чытаў гэтую кнігу на Трэцяй праграме радыё:

— У гэтай старонцы я першы раз у маім жыцці на даўжэй, і гэта вельмі тэатральны свет. Гэта для мяне адкрыццё. Сама кніга добра напісана, дасканала чытаецца. Яна кранальная і хвалюючая. Што мне падабаецца ў персанажы, іграным мной, гэта яго дваістасць. Ігар гэта чалавек выдуманы самім сабой, які збег, каб адмежавацца ад сваіх комплексаў, якія на самой справе паяўляюцца ў людзей у гэтым рэгіёне, і пабудаваў свой свет. «Сонька» гэта свайго роду казка пра жыццё. Я жыву ў горадзе. Я ніколі не меў справы на працягу доўгага часу з вёскай, не маю там сваёй сям'і і такіх перажыванняў, звязаных з ёю, як аўтар кнігі. Мне, ствараючы ролю, трэба канкрэтнага вопыту, таму паездкі ў Случанку прынеслі мне шмат. Тыя людзі адтуль, якія паяўляюцца ў кнізе і ў спектаклі, былі вялікай інспірацыяй. Мы правялі там многа фантастычных размоў, але нічога пра іх не скажу, таму што не хачу, каб гэтыя людзі адчулі, што мы іх выкарысталі. Дарэчы, у нашай гісторыі не гучаць ніякія прозвішчы, ніякія канкрэтныя сітуацыі. Гаворка ідзе пра паказанне некаторых механізмаў, якія датычаць Сонькі: хто яна і якая яна ёсць, кім і якая яна была раней, яе свету.

Прэм'ера «Сонькі», для якой сцэнічнае афармленне стварыў Яцак Маліноўскі, за праекты касцюмаў адказвалі Магдалена Дамброўская і Агата Вонс, а за сцэнічны рух Мацей Заклічынскі, а аўтарам незвычайных візуалізацый з'яўляецца Кшыштаф Кізевіч, адбудзецца 27 сакавіка.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## Юбілей «Маланкі» і новы дыск

25 красавіка 2015 года калектыў «Маланка» будзе святкаваць юбілей 25-годдзя мастацкай дзейнасці. З гэтай нагоды музыкі запісалі і выдалі свой чацвёрты кампакт-дыск, які назвалі «Мы вам жадаем». На гэтым дыску апынуліся 23 цудоўныя песні, між іншым, «Ручнікі», «Медавуха» — у выкананні салісткі Святланы Кобус, «Матулі яблыні» ў выкананні дуэта Святлана Кобус і Анна Паплаўская, «Цвіце, цвіце чарэшанька» ў выкананні дуэта Яўгення Барысюк і Кастанцін Селевановіч і іншыя.

Самадзейны калектыў беларускай песні «Маланка» Бельскага дома культуры ў Бельску-Падляшскім існуе з 1990 года пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. «Маланка» карыстаецца вялікай папулярнасцю на Беласточчыне. За перыяд 25 гадоў выступіла на больш за 520 канцэртах у Польшчы, а таксама ў Беларусі, Расіі, Францыі, Нямеччыне. У сваёй дзейнасці «Маланка» запісала і выдала 6 магнітафонных касет і 4 кампакт-дыскі.

Калектыў дзейнічае дзякуючы фінансавай падтрымцы міністра адміністрацыі і лічбавізацыі Польшчы, а таксама бургамістра горада Бельск-Падляшскі і пад патранатам Музея малой айчыны ў Студзіводах.

Гурт «Маланка» шмат разоў прадстаўляў беларускую меншасць на нацыянальных і этнічных фэстах меншасцей у Варшаве, Пуньску, Дабрыдзені, Млынарах і Гданьску. За мастацкую дзейнасць міністр культуры прызначыў гурту «Маланка» адзнаку «Заслужаны для польскай культуры» і ганаровую грамату. «Маланка» таксама з'яўляецца лаўрэатам Агульнапольскага фестывалю беларускай песні, арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Сёлета на цэнтральным яго аглядзе ў Гайнаўцы «Маланка» заваявала I месца песняй «Мы вам жадаем».

Сваёй мілагучнай мелодыкай і маляўнічымі касцюмамі ўдзельнікі «Маланкі» прагнуць давесці гледачам тое, што беларуская культура можа развівацца, што спеўная творчасць з'яўляецца скарбніцай роднага слова і культуры, якой будуць карыстаца паколенні беларусаў Падляшша і іншыя. Народныя песні з'яўляюцца вечнымі зярняткамі будучыні нас усіх.

**Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ**

# Гродзенскія журналісты на Падляшшы



Група з шасці журналістаў наведала Падляшша ў рамках азнаямляльнай паездкі, арганізаванай Дэпартаментам міжнароднага супрацоўніцтва і прасоўвання Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і яе ініцыятарам Генеральным консульствам РП у Гродне. На працягу трох дзён (16-18 сакавіка) сустрэліся яны з беларускай і татарскай нацыянальнымі меншасцямі, няўрадавымі арганізацыямі, у тым ліку з прадстаўнікамі Універсітэта залатога веку ў Саколцы і Фонду «Віла Сакрата» ў Крынках, наведалі, між іншым, беластоцкі Музей вёскі, драматычны тэатр і оперу, прынялі ўдзел у байдарачным паходзе на Чорнай Ганьчы. Былі таксама зацікаўлены турызмам і шырока разуметай прамоцыяй. **Гражына Сабэцкая** з аддзела супрацоўніцтва з замежнымі краінамі і прасоўвання МУПВ:

— Мы падрыхтавалі праграму ў адпаведнасці з іх чаканнямі. Чарговыя азнаямляльныя візіты (у гэтым годзе будуць яшчэ два — М. Х.), мы плануем у паўночнай часткі ваяводства, але таксама хочам ехаць на поўдзень, таму што лічым, што гэтая частка ваяводства замала прасоўваецца.

У ходзе сустрэчы ў маршалкоўскай управе журналісты пазнаёміліся з мерамі, прынятымі ўстановай для прасоўвання ваяводства.

Мэтай сустрэчы было прадстаўленне праектаў, што рэалізоўюца ваяводствам і іх маркетынгавых вынікаў.

— Яшчэ некалькі гадоў таму, калі мы пачалі нашу працу, найбольш распаўсюджанай асацыяцыяй з Падляшшам былі прырода, зялёны колер, — сказаў **Якуб Гансоўскі**, кіраўнік аддзела прамоцыі МУПВ. — Мы хацелі, каб змяніць гэта і звярнуць увагу на гэтак жа важную перавагу гэтага рэгіёна, разнастайнасць культур і нацыянальныя меншасці.

Паведамляў, што падляшскія ўлады на рэкламныя дзеянні выдаюць каля аднаго мільёна злотых. У параўнанні з іншымі рэгіёнамі гэта нямнога. Напрыклад, параўнальнае з Падляшшам Вармінска-Мазурскае ваяводства прызначае на гэтую мэту 12,8 млн. злотых, а Падкарпацкае — 11,4 млн. злотых.

— Мы не маем вялікага бюджэту. Мусілі справіцца з гэтым і распачаць такія дзеянні, якія з'яўляюцца прывабнымі для спажыўцоў і справакуюць гэтак званы вусны маркетынг. Варта карыстацца патэнцыялам свайго ўласнага грамадства. Удзел людзей, звязаных эмацыйна з ваяводствам мае неацэннае значэнне, — пераконвала **Магдалена Лыжніцка-Санчанка**, дырэктар дэпартамента міжнароднага супрацоўніцтва і прасоўвання.

— Мы арыентуемся на ўнікальнасць рэгіёна як месца сустрэчы многіх культур, але таксама месца нейкім чынам містычнае, таямнічае, — дадаў **Якуб Гансоўскі**.

Гарадзенскія госці адзначылі:

— Паасобныя рэкламныя мерапрыемствы і ў нас адбываюцца, але няма спецыяльнай асобнай структуры, якая б толькі гэтым займалася.

Госці пыталіся, наколькі падляшскія ўлады зацікаўлены ў прасоўванні Падляшша на Гарадзеншчыне. Дырэктар Лыжніцка-Санчанка запэўнівала:

— Мы вельмі зацікаўлены. І на Гарадзеншчыне, і таксама на Брэстчыне.

**Вітаўт Руднік** з незалежнага інтэрнэт-партала «Твой Стыль», сузаснавальнік і старшыня грамадскага аб'яднання «Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў «Трэці сэктар»», з другой паловы 1990-х — адзін з найбольш вядомых беларускіх трэнераў для грамадскіх актывістаў, адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў гарадзенскай «Школы маладога журналіста» ўжо ў пачатку візіту на Падляшша быў уражаны:

— Пасля таго, што мы пабачылі, хочацца верыць, што нашы беларусы будуць разглядаць Падляшша не толькі як месца пакупак, але і месца, дзе могуць даведацца пра спадчыну і беларусаў, і іншых народаў, якія заўсёды жылі тут бок аб бок. Мы мелі магчымасць даведацца аб розных тутэйшых культурах і ў Крушынянах, і ў Саколцы, і ў Крынках, даведацца, як людзі падыходзяць да таго каб захаваць сваю культуру. Я пад уражаннем візіту ў лясніцтве Пачапок, якое з'яўляецца вялізным турыстычным атракцыёнам. Гэта паказвае, што калі мы знойдзем чалавека з ідэяй, сапраўднага гаспадара, то нават на кавалку нічым неадметнай зямлі створыць ён вельмі прыемнае месца, якое прыцягвае турыстаў.

Рэдактар «Слонімскай газеты» **Віктар Валадашчук**:

— На гэты раз я ўбачыў Падляшша з розных бакоў. Я быў вельмі крануты візітам у Крушынянах, і гэтым, як там клапоцяцца, каб захаваць татарскую культуру. Я таксама ўражаны энергіяй, якую хацелі перадаць людзі ў Музеі вёскі.

**Аксана Сівадзелава**, галоўны рэдактар існуючага ад паўгода камерцыйнага часопіса на рускай мове «Твой город — Гродно»:

— Вельмі выразна адчуваецца, што жыхары Падляшша ганарацца сваім рэгіёнам. Вельмі прыемна было назіраць тое, што беларуская культура цэніцца тут нароўні з польскай. У Гродне амаль няма інфармацыі пра беларусаў, якія жывуць тут. Мы не ведаем, што яны тут робяць, чым займаюцца.

Адной з магчымасцей пазнаёміцца з дзейнасцю арганізацый меншасцей на Беласточчыне гродзенскія журналісты мелі на сустрэчы ў Беластоку ў «Склепе з культурай», праведзенай у пачатковай школе № 4 згуртаваннем «АБ-БА». Пра дзейнасць згуртавання, навучанне беларускай мовы ў Беластоку расказала, між іншым, Аліна Ваўранюк, пра дзейнасць Беларускага аб'яднання студэнтаў, у тым ліку пра фестываль «Басовішча» — Ганна Пякарская, а пра Радыё Рацыя і «Ніву» — праграмны дырэктар Радыё Рацыя Юры Ляшчынскі. Вітаўту Рудніку было цікава, ці беларусы на Беласточчыне сутыкаюцца з праявамі варожасці ў адносінах да іх нацыянальнасці. **Аліна Ваўранюк** адказала:

— Не, не адчуваем. Калі мае дзеці былі малыя, і мы часам у школу ездзілі аўтобусам, то ніхто не глядзеў на нас неяк дзіўна, калі мы гаварылі па-свойму, калі ў аўтобусе я чытала «Ніву». Хоць цяпер здараліся выпадкі замалёўвання беларускіх назваў.

Журналісты расказвалі аб праблемах з інфармацыяй на Гродзеншчыне пра жыццё беларусаў Падляшша. **Іна Максімчык** з газеты „Вячэрні Гродна”:

— Мы пісалі пра беларусаў з Падляшша. Пісалі пра беларускі садок і беларускі ліцэй. Але праблема ў тым, што няшмат цяпер моладзі хоча навучацца па-беларуску, таму, канешне, мы няшмат пішам, бо для гэтага патрэбная інфармацыйная нагода. Але я не пагаджаюся з тым, што на Гарадзеншчыне не ведаюць пра беларусаў Падляшша.

**Вітаўт Руднік**:

— Зрэдку нешта піша «Вячэрні Гродна», часам тэлебачанне рэгіянальнае прыедзе і здыме нейкі сюжэт пра беларусаў Падляшша. Але гэтага няшмат. І цяжка вымагаць ад уладаў, якія не зацікаўленыя ў сябе ў развіцці беларускай мовы і культуры, што яны будуць вельмі цікавіцца жыццём беларусаў на Падляшшы. Але тут праблема з абодвух бакоў. Можа і мы, у тым ліку журналісты, няшмат цікавімся беларусамі за мяжой, але з іншага боку і да нас прыходзіць мала інфармацыі пра тое, што адбываецца на Падляшшы.

Як адзначыў, адной з перашкод у сувязі ў гэтых адносінах з'яўляецца мяжа, якая падзяляе нас. З нагоды сустрэчы ў «Склепе з культурай» **Віктар Валадашчук** сказаў «Ніве» і Радыё Рацыя аб цяжкай сітуацыі, у якой апынулася «Слонімская газета», якая выходзіць ужо 18 гадоў:

— На працягу гэтых гадоў наша газета неаднаразова адчувала праблемы з уладамі. У 2008 г. нават стаялі мы на крок ад свайго закрыцця мясцовымі ўладамі. Тым не менш, нам удалося выжыць. Паказваемся на 40 старонках, тыражом больш за 5 тысяч экземпляраў. У свой час паказваліся мы накладам каля 12 тысяч. У цяперашні час маем укладыш, рускі варыянт газеты. Працуюць 15 чалавек, шэсць з якіх з'яўляюцца журналістамі. Пазбавілі нас магчымасці продажу газеты і падпіскі ў шапіках па Белпошце і крамах. Цяпер распаўсюджваюць нашу газету прадаўшчыцы-бабулі. Займаецца ў цяперашні час гэтым дзесяць чалавек. Невялікая частка выдання прадаецца праз прыватныя шапікі. Па гэтай прычыне мы не можам у апошні час распаўсюдзіць увесь тыраж і крыху яго вяртаецца.

Падводзячы вынікі візіту, **Гражына Сабэцкая** прызналася ў размове з «Нівай»:

— Гродзенскія журналісты кожны дзень супрацоўнічаюць з беластоцкімі журналістамі, так што не адкрываем тут новай дарогі. Тым не менш хочам прысутнічаць у тамашніх сродках масавай інфармацыі, і для нас гэта галоўная мэта такіх візітаў. Не толькі пакупкі павінны быць прывабнымі для беларусаў. Мусім запрапанаваць іншае. Чакаем, што яны будуць таксама наведваць Падляшша.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# Па наезджанай каляіне

Міністр замежных спраў Латвіі Эдгарс Рынкевічс заявіў пасля нарады кіраўнікоў дыпламатычных ведамстваў краін Еўрапейскага саюза ў Рызе, што Еўрасаюз бачыць магчымасць паляпшэння адносін з Беларуссю пасля многіх гадоў праблемных стасункаў. Не выключана, што ўпершыню беларускую дэлегацыю на саміце Усходняга партнёрства ачоліць кіраўнік Беларусі. Эдгарс Рынкевічс сказаў, што ўдзел Лукашэнкі ў травеньскім саміце ў Рызе — адкрытае пытанне. „Запрашэнняў яшчэ нікому не дасылалі. Гэта адбудзецца толькі напрыканцы сакавіка — упачатку красавіка".

У падобны спосаб нядаўна ў эфіры Радыё Рацыя выказваўся намеснік старшыні Еўрапарламента Рышард Чарнэцкі. Маўляў, трэба нам — еўрапейцам — працягнуць руку Лукашэнку, бо інакш ён разам з Беларуссю поўнасцю пападуць у лапы Расеі. І таму мо не трэба нам так моцна націскаць на афіцыйны Менск у справе дэмакратыі, правоў чалавека і таму падобных рэчаў. Гэтыя вартасці дарагія нам — еўрапейцам — але беларусы іншыя і яны могуць абыходзіцца без такіх вартасцей. Яны хочуць парадку, чыстых вуліц і стабільнасці. Усё гэта забяспечвае ім Лукашэнка. Такі погляд сярод еўрапейскіх палітыкаў нярэдкі.

Маюць яны клопат з Аляксандрам Рыгоравічам. Раз ён у іх — апошні дыктатар Еўропы, іншы раз — гарант незалежнасці Беларусі, а апошнім часам яшчэ і міратворац. Пры чым, Лукашэнка не робіць нічога ад часу славутай кампаніі з лордам Бэлам, каб як-небудзь свой імідж у чыіхсьці вачах мяняць. Тое, што француз, немец ці італьянец не разумеюць Беларусі, бо яна ім ні да чаго непатрэбная — гэта ясна. Але колькі ж разоў можна наступаць на тыя самыя граблі. Хопіць узгадаць сітуацыю 2010 года, перад апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі. Пра Лукашэнку загаварылі на еўрапейскіх салонах надзвычай цёпла. Дзверы яму туды таксама адчыняліся ўсё шырэй, а запрашаць яго туды паехалі ў Менск міністры замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі і Нямеччыны Гіда Вэстэрвэле. Чым гэта закончылася — ведаем. Працэс пацяплення закончыла Плошча — пабоі і арышты, закручванне гаек і здзекі. У тым і з пасланцоў Еўрасаюза. Памятаеце, як Лукашэнка рагатаў, што лепш быць дыктатарам, чымсьці гамасекам, указваючы на арыентацыю Вэстэрвэле, якой той ніколі і не хаваў. Рагатаў з міністра замежных спраў наймагутнейшай краіны Еўропы. І што? І нічога. Мала смешна, то праўда. Не бачу аднак патрэбы, каб ягоныя прыдворныя ў недалёкай будучыні прыдумалі больш тонкую насмешку з міністра Эдгарса Рынкевічса. Хутчэй за ўсё, будзе яна ў падобным стылі, як абухам па галаве.

Ніхто ў палітыцы з наіўнымі тонка не гуляе. А інакш чым наіўнасцю не назавеш думку еўрасаюзных палітыкаў, што Лукашэнка балансуе на нейкім канаце паміж Расеяй і Еўропай, што ён — гарант незалежнасці Рэспублікі Беларусь і суб'ект міжнароднай палітыкі. Ніякі ён не гарант і не суб'ект. Яго публічныя выступленні — адна бязглуздзіца, а дзяржаўная ідэалогія зводзіцца да аднаго — забяспечыць яму пажыццёвую ўладу. У такім маштабе, у якім дазваляе Масква. Зразумела, што гэта пасля кароткіх імперскіх трызненняў, сёння поўнасцю Лукашэнку задавальняе. Ды і ён сам поўнасцю задавальняе палкоўніка Уладзіміра Уладзіміравіча.

Не пакідаць жа нам беларусаў саміх сабе, не адгароджвацца ад іх чарговай жалезнай сцяной — зрэдзь часу гучаць у Еўропе і такія галасы. Дык не адгароджвайцеся. Адчыніце ж тыя дзверы ў Еўропу. Але адчыніце менавіта беларусам, а не Лукашэнку і яго двару. Адмяніце візы грамадзянам Беларусі. Не бойцеся, нічога страшнага пасля гэтага не здарыцца, не заліюць Еўропу натоўпы дзікіх усходніх качэўнікаў. Проста, жыхары Беларусі атрымаюць магчымасць самі пераканацца, якія страшныя тыя Еўрасаюзы і НАТА. У іншым выпадку, ім надалей давядзецца слухаць пра тых адвечных ворагаў з вуснаў Аляксандра Лукашэнкі. У траўні ў яго будзе дадатковы аргумент: я ж там быў у той Рызе, бачыў як яны там гібеюць і толькі лапкі пасуць на наш дабрабыт. Але не бойцеся, у вас ёсць ваш любімы прэзідэнт, які не дасць вас у крыўду. І з вашага дазволу, і дзеля вашага шчасця будзе ён вамі яшчэ доўга-доўга кіраваць.

Такі варыянт падзей, паводле мяне, вельмі верагодны. З адной невядомай: колькі гэта будзе доўга-доўга. Я не ведаю, які варыянт прадугледжвае Эдгарс Рынкевічс, тым не менш, добра было б, каб не забываўся на досвед сваіх калег, хай сабе ўжо і былых міністраў замежных спраў Сікорскага і Вэстэрвэле.

Я разумею, што прасцей пусціць у Еўропу аднаго Лукашэнку, чымсьці дзевяць мільёнаў беларусаў. Толькі не можна называць гэтага адкрыццём на Беларусь і дапамогай беларускаму народу.

Мікола ВАЎРАНЮК



# Трывожныя круглыя даты

Першая гадавіна анексіі Крыма Расеяй паказала, што насупраць імперскім памкненням Крамля сёння не ў змозе рэальна супрацьстаяць аніводная дзяржава, ані нават палітычныя і вайсковыя блокі Еўрасаюза і НАТА. А Абамаўская Амерыка, як у час палітыкі ізаляцыянізму трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, паспяхова выкручваецца абяцаннем жорсткіх санкцыяй у бліжэй неакрэсленай будучыні. Што гэта можа абазначаць для бліжэйшых суседзяў Расеі? Давайце на хвіліну задумаемся.

Дзяржавы і народы любяць свае круглыя, гістарычныя даты. Асабліва ўрачыста святкуюцца тыя, якія спасылаюцца непасрэдна на іх палітычныя ці мілітарныя перамогі. А гадавіны трагічных, прайграных падзей з'яўляюцца нагодай для ўзгадання сэнсу чалавечых ахвяр у імя свабоды і незалежнасці кожнага народа. Адна ж і тая самая гістарычная падзея найчасцей па-рознаму ацэньваецца канфліктуючымі бакамі, або прамоўчваецца той дзяржавай, калі яна поўнасцю несамастойная ў сваім палітычным развіцці.

Прыгадайма, што ў мінулым годзе Беларусь мела непаўторны шанц адзначыць круглы юбілей пяцісотгоддзя перамогі войск Вялікага Княства Літоўскага над маскоўскімі войскамі пад камандаваннем вялікага князя Канстанціна Астрожскага пад Оршай. Для будавання дзяржаўнага і нацыянальнага міфу маладой, палітычнай краіны — нагода проста непаўторная. І сама асоба князя Канстанціна Астрожскага — выдатнага мецэната праваслаўнай культуры XVI стагоддзя — здаецца проста ідэальна ўпісвацца ў ідэалагічную падтрымку Царквы першым праваслаўным атэістам краіны. А тут што, поўны пшык. Літоўцы, украінцы, палякі абыгралі гэтую гадавіну для сваёй нацыянальнай гісторыі і палітычных мэтаў, а мінская мыш схавалася моўчкі ў дзірку перад крамлёўскім катом.

І далей нат не пісне ні слоўцам, ці супрацьдзеяннем, калі той заяўляе ўжо пра канкрэтныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі на Гомельшчыну, Віцебшчыну, Магілёўшчыну. А так нядаўна з вялікім крыкам прымаліся законы пра экстрэмізм, асабліва накіраваныя супраць тэрытарыяльнай цэласці Беларусі. І вось, калі расейскі экстрэміст, дарэчы, грамадзянін Беларусі, правакуе на крымскі і данецкі варыянт, то спецслужбы, цяжка сказаць якой ужо краіны, ваююць надалей па поўнай праграме з незалежнымі журналістамі, праваабаронцамі, ці нават турыстамі, якія сфатаграфавалі адміністрацыйныя будынкі. І ўсе маўчаць, уключна з крыклівым міратворцам, які гучна заяўляе пра цэласнасць Украіны. Тое, што ад такой палітыкі беларускай дзяржаве ў найбліжэйшым часе дабра не чакаць — відавочнае простым вокам. Асабліва ў кантэксце круглай гадавіны святкавання сямідзесяцігоддзя перамогі пуцінскай, постсавецкай Расеі над фашыстоўскай Нямеччынай.

Пуцін, здаецца, любіць круглыя даты. Згадайма, мінулагодняя анексія Крыма выпала роўна шэсцьдзесят гадоў пасля таго, як Мікіта Хрушчоў у 1954 годзе перадаў Крым Украіне. І загад да пераймання Крыма, як распавядае сам Пуцін, даў ён менавіта 23 лютага — у гадавіну святкавання дня савецкай арміі. Проста прэзідэнт — сімваліст. Але нам, суседзям, бліжэйшым ці далейшым, ад галоднага і злоснага сімваліста, мядзведзя — дабра не чакаць. Якую ахвяру і з каго задумаў ён прынесці разбуджанаму вулкану расейскага нацыяналізму пад 9 мая? Аж страх думаць. Сцэнарый узяць Украіну і Беларусь да дня перамогі, як сімвал адбудаванай сталінскай, савецкай імперыі, дай Божа каб ніколі не здзейсніўся. Беларусь у Еўропу — выкрыквалі беларусы на чарговых мінскіх плошчах. Возьмем і Еўропу, здаюцца заяўляць у адказ маскоўскія палітыкі і іхнія масмедыі. А мы надалей інфантыльна кружымся на пальчыках вакол маскоўскага монстра, каб яго не разбудзіць, бо ён яшчэ спіць. Бо, як у дзіцячай песеньцы гаворыцца, калі ён прачнецца, то нас з'есць. На жаль, ён ужо даўно разбуджаны і ненасытны. І можам нат не прыкмеціць, калі і нас праглыне.

Яўген ВАПА

# Па польска-беларуска-жыдоўску

Фота архіў ГАК у Крынках



Давід Дыман і Яўген Калодзін

Канцэрт сарганізаваны ў рамках супрацоўніцтва Праграмы жыдоўска-хрысціянскага дыялогу «Шомэр-Інтэрнэшнал» з Беларусі і Гміннага асяродка культуры ў Крынках. Незвычайная інфармацыя на афішы з нагоды звычайнага Дня жанчын. Удакладняючы, незвычайная для Крынак, у якіх афіцыйнае супрацоўніцтва з Беларуссю дагэтуль не ўспрымалася мясцовымі «элітамі».

— Ідэя ўзнікла ў прошлым годзе, — тлумачыць дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Крынках Альжбета Чарэмха. — На татарскім свяце «Сабантуй» у Крушынянах я сустрэлася з лідарам грамадскай арганізацыі «Шомэр- Інтэрнэшнал» Яўгенам Калодзіным з Гародні. Малады, энергічны чалавек запрапанаваў наладзіць пастаянныя адносіны з нашым асяродкам. Мы ўжо падпісалі афіцыйны дагавор. Яўген хоча папулярызаваць і зберагаць тут жыдоўскую культуру. Думае, між іншым, пра арганізацыю тэматычных дыскусій, клапоціцца пра стан крынскіх сінагогаў. Пакуль прывозіць да нас жыдоўскіх музыкантаў з Беларусі. Выступаюць бясплатна, так ад шчырага сэрца. Адной з мараў Яўгена з'яўляецца праўдзенне канцэрта рэлігійнай, жыдоўскай музыкі ў нашым касцёле.

8 сакавіка Яўгэн завітаў у Крынкі з калектывам «Мастэр» з Лепеля, што на Віцебшчыне. Іх выступленне пачалося пажаданнямі так патрэбнага сёння міру. У надта разнароднай праграме прагучалі жыдоўскія жарты і песні. Усё гэта ў зале крынскай каўказскай сінагогі па вуліцы Пілсудскага. Мабыць, было б лепш, калі б у месца жартаў паявіліся жыдоўскія малітвы, але хто ведае што прынясе будучыня. Пакуль шматліка сабраныя крынчане застылі ад уражання, якое зрабіла на іх віртуозная скрыпка і голас дзесяцігадовага Давіда Дымана. У іх выкананні прагучалі, між іншым, стандарты класічнай музыкі розных краін і эпох. Быў і беларускі акцэнт — песня пра любоў да айчыны і мовы, на якой выхаваўся малады спявак. Апладзіравалі ім стоячы. Былі бісы і спецыяльная падзяка ад крынскай бургамістр Іаланты Гудалеўскай. Але гэта далёка не ўсе атракцыёны, падрыхтаваныя не толькі жанчынам спадарыняй Альжбетай. З цікавымі, сатырычнымі маналогамі пад супольным загалоўкам «Жаночая логіка» запрэзентавалася крынскія гімназісткі. Іх падрыхтоўкай, як заўсёды, занялася дырэктар Гміннага асяродка культуры. Былі маладыя адэпты гітары і піяніна, а таксама сур'ёзныя мужчыны з вакальна-інструментальнага калектыву «Лотасы». У той раз з крынскімі олдбоямі заспяваў гурток гімназістак да нядаўна звязаных з жаночым калектывам «Экзіт». Традыцыйна з мясцовым беларускім рэпертуарам выступіла дзіцячая «Заранка».

Нельга забыць і пра не менш важную, кулінарную частку мерапрыемства. Тут адказнасць узялі на сябе Марыян і Гражына Бараноўскія. Разам з гуртком гімназістаў і вучняў старэйшых класаў пачатковай школы спяклі яны вялікую колькасць казачных у смаку пірагоў. Мужчынская частка кандытараў, надзеўшы гальштукі, частавала пірагамі і кавай усіх прысутных на мерапрыемстве. Можна было таксама пакаштаваць сапраўднага беларускага квасу — святочнага падарунка ад калектыву «Мастэр».

Іаанна ЧАБАН



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# Дастойныя святкаванні

У Беластоку пачаліся сакавіцкія святкаванні. Марознай раніцай у нядзельку, 22 сакавіка, многія з нас прыехалі на беларускі малебен у царкву Агія Сафія. У гэтай парафіі ранішнюю літургію амаль поўнасцю адпраўляюць на беларускай мове, а прыгожым дапаўненнем з'яўляюцца... прыслужнікі. Сярод іх мы прыкмецілі братоў Міколку і Алеся Здрайкоўскіх, Віцю Паўлоўскага ды братоў Кубу і Матфея Навумюкоў. Усе яны ходзяць на ўрокі беларускай мовы, расслаўляюць яе ў песнях і дэкламацыях, на тэатральных падмостках і нават у шахматных турнірах. У гэты дзень роля прыслужнікаў — як ніколі — была важнай. У іх царкву прыехалі многія сябры са школы і прадшколля, настаўнікі, сваякі. У час малебна дарослыя, дзеці і моладзь, маліліся за беларускі народ і за паэта Віктара Шведа, які адзначаў свой слаўны гранітны юбілей (яму 90 гадоў!). А як прыгожа спяваў хор пад кірункам Касі Жамчужнікавай! У руках харыстаў мы прыкмецілі адмысловыя сшыткі з беларускім малебнам. Вельмі ўзнёсла прагучаў рэлігійны гімн «Магутны Божа», які падхапілі ўсе ўдзельнікі багаслужбы. У гэты раз сабраных чакаў яшчэ адзін прыгожы сюрпрыз. Пасля выхаду з царквы, калі грамада рыхтавалася да супольнага традыцыйнага здымка, вучаніца Вікторыя Пякарская (на здымку) прачытала «Малітву» Віктара Шведа. І гэта было найлепшае дапаўненне! Сам юбіляр не хаваў узрушанасці. І многія з нас таксама, — там гаварылася пра любоў да роднай мовы і вернасць свайму народу.

* * *

Яшчэ ў гэты самы дзень, у шаснаццаць гадзін, у беластоцкіх «Сподках» адсвяткавалі гранітны юбілей Віктара Шведа. З'явіліся людзі розных пакаленняў, прафесій і асяроддзяў. Побач унукаў сядзелі прадзеды, побач архіепіскапа і прафесараў — простыя людзі, удзячныя чытачы. Прыехалі настаўнікі з Орлі, Бельска, Гайнаўкі. Адным з самых гарачых і энергічных падарункаў паэту было выступленне дзіцячага гурта «Баламуткі» з Беластока, якія праспявалі песню «Мы — першакласнікі». Гэтае выступленне заказаў сам Збігнеў Клімовіч, дырэктар беластоцкай «чацвёркі». Незабыўным момантам было таксама выступленне Наталлі Швед. Дачушка паэта прызналася ў адной тайне. У школьныя гады, калі яна рыхтавалася да беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў, заўсёды хацела выступаць з вершамі бацькі. Аднак яе адмаўлялі, тлумачылі... што так нельга. Зараз Наталля — студэнтка архітэктуры. Прачытала яна любімы верш бацькі пад загалоўкам «Апошні рамізнік». З дэкламацыяй вершаў выступіла таксама настаўніца Аліна Ваўранюк. Дадатковым сюрпрызам ад аб'яднання АБ-БА быў каравай і мастацкі партрэт-шарж паэта. Моладзь з «чацвёркі» вяла кніжны прылавак, у якім госці куплялі кніжкі паэта. Наша рэдакцыя, якая была суарганізатарам свята, падарыла паэту бел-чырвона-белы торт, сушаныя яблыкі і грушы ды спецыяльны нумар «Нівы».

Беларускі малебен, юбілей Віктара Шведа наклікалі добры настрой перад святкаваннем 25-га Сакавіка. Але пра гэта ў наступным нумары.

ЗОРКА





Малюнак Зузанны КАРДЗЮКЕВІЧ

## УВАГА КОНКУРС! № 13-15

## Загадкі з роднай хаткі

Ледзьве толькі
Сыдзе снег,
Сонца сее
Жоўты смех.
Па калена
У вадзе
Жоўты-жоўты
Смех брыдзе.
На балоце
Цвіце...
(Л.....)

* * *

У пяску купаюцца
Шэранькія шарыкі.
Куртатыя хвосцікі,
Дзюбатыя тварыкі.
(В......)

(Н. А. Сторажава)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 5 красавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадкі № 9-15: сонтрава, сонца і месяц. Узнагароды, аўдыёбукі «Адкуль наш род» выйгралі Міхал Тапалянскі, Дыяна Хіліманюк з Нарвы, Іаанна Хіліманюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем! (Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі»)




# Як дэкламавалі ў Нарве

На школьны дэкламатарскі конкурс «Роднае слова» сабраліся вучні, бацькі і настаўнікі. Свята пачалося 26 лютага г.г. у восем раніцы, а павяла яго настаўніца Ніна Абрамюк. Дэкламатараў слухала журы ў складзе Кацярына Іванюк, Марлена Русіловіч і Ніна Абрамюк.

За выканаўцамі сачылі таксама бацькі. Удзельнічаў 41 дэкламатар — ад прадшколля па гімназію. Выступленні былі поўныя эмоцый, кранаалі душу. Шмат прыгожых слоў можна сказаць пра наймалодшых: Дамініку Хіліманюк і Аліўку Жэпко. У групе класаў I-III журы найвышэй ацаніла здольнасці Аліўкі Порац, Аляксандры Хіліманюк, Агаты Астапчук, Марты Петручук, Анны Кавальчук, Аліўкі Кур'яновіч, Клаўдзіі Нікачук і Мартыны Чаляеўскай. Сярод старэйшых прыгожа выступілі Караліна Порац, Кацярына Станько, Эва Анджэйчык, Юлька Шкляжэўская і Міхал Тапалянскі. З гімназіі — Крыстыян Паскробка і Магда Нікановіч.

Названыя вучні перайшлі да раённага этапу. Школьны конкурс гэта радасць усіх дзяцей. Таму камісія назначыла яшчэ лепшых выканаўцаў. Вось іх прозвішчы: Вікторыя Якімюк, Наталля Петручук, Патрыцыя Максімчук, Марта Кандрацюк, Вікторыя Снарская, Паўліна Лело, Наталля Пашкоўская, Дыяна Хіліманюк, Наталля Кіндзюк, Барташ Чамярыс, Адрыян Залускі, Якуб Алексяюк і Кінга Гурцэвіч. Усе атрымалі ўзнагароды.

*Крыстыян Паскробка*
*і Ніна Абрамюк*

## Юры БАЕНА
# Тата

*Тата,*
*сёння дзень твайго свята.*
*Краскі ў рукі вазьмі,*
*колерамі вясёлкі*
*намалюй мне сны.*
*Хмарку з неба знімі,*
*няхай сонца гарыць.*
*Вось ручаёк бяжыць,*
*ты з ім свет пакажы.*
*Вясной і летам*
*з табой хочацца гуляць*
*на дыване з кветак.*

*Тата, я сын твой.*
*А я – дачка.*
*Разам з мамай –*
*Мы адна сям'я.*

# МОДА НА СВЯТА

## Адкуль узялася
# ДАЎГАВА?
*(латышская казка)*

Гэта было даўным-даўно. Аднойчы птушкі і звяры рашылі выкапаць вялікую раку Даўгаву (Дзвіну) і зразу ўзяліся за работу. Заяц, крот і мядзведзь ды ўсе іншыя звяры працавалі поўным махам. А калі выкапалі Даўгаву, то яшчэ сустрэліся рассудзіць, хто як працаваў. Крот і мядзведзь нават зямлі з сябе не паспелі атрэсці — яны так шчыравалі пры рабоце.

— Вы ў нас найбольш з усіх напрацаваліся, — сказалі ў іх адрас звяры і птушкі, — таму вам будзе можна заўсёды насіць рабочае адзенне.

Ваўку, які энергічна рыў зямлю лапамі і дапамагаў яшчэ ікламі, пакінулі назаўсёды морду і лапы чорнымі. Хай усе ведаюць як яны слаўна папрацавалі.

Гусей і качак таксама хвалілі. Ім дазволілі плаваць і ныраць у рацэ колькі захочуць. А апошнім звярам, якія не надта прылажыліся да работы, дазволілі піць з рэчкі ваду.

А варона рабіла ўсё, каб адхіліцца ад работы. У гэты час вароны былі яшчэ белымі. І каб іншыя не прыкмецілі, што яна не працавала, варона пакупалася ў гразі. Прыйшла яна цэлая ў гразі да ракі, каб памыцца. Аднак звяры і птушкі ведалі, што яна ашуканка, і адагналі яе ад вады. З гэтай пары вароны засталіся шэра-бела-чорнымі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

* Раку Даўгаву, якая спачатку плыве з Расіі праз Беларусь, у нас называюць Дзвіной.

# Вершы Віктара Шведа

## Рашалі мае ўрокі

Сварыць доню мамуся:
— Дзе прападала дачуся?
— Была ў сяброўкі Ані,
Развязвалі заданні.

— Выдатніца ж такая
І ёй дапамагаюць?
— Ды гэта ж не марока —
Рашалі мае ўрокі.

## На могілках

На могілках працуе татка
Просіць купіць яму радыёлу.
У магазін са сваёй маткай
Пайшоў малы Алесь са школы.

За радыёлу грошы плацяць,
Хвастаецца Алесь людзям:
— На пагосце майму таце
Весялей напэўна будзе.

# Польска-беларуская крыжаванка

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pani / Wokal | | Karpatia | | Koszara / Tort | | | | | Lipa |
| | | | | | Brzask | Róg | | | |
| Nasz / Pierożek | | | | Żaba | | Kebab | | | |
| | | | | | | | | Skrzydła | |
| | Prze-laszczka | | | | | | | | |
| Pi / Baobab | | | | | | | Car | | |
| | | | Akacja | | | | | | |
| But | | | | | Punkt | | | | |
| Wiosna | | | | | | Rzym | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 7:

Свет, шкура, ох, дошка, жэст, сто, дыктоўка, тата, ер, ранг, штат. Сто, дар, жыта, дэкан, рост, што, кок, аскет, тара, акно.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Тымэк Петручук** з Нарвы, **Вікторыя Гаць, Наталля Маркевіч** з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Крыстыян Стоцкі, Клаўдзія Сікорская** з Міхалова, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Якуб Болтрык, Мілаш Тэляшэўскі, Барташ Місяюк, Магдалена Гарустовіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!

№ 13-15

# Жыццё і творчасць Ларысы Геніюш – вядучай тэмай Алімпіяды беларускай мовы


■ Вусныя выказванні перад камісіяй. На здымку старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды прафесар Аляксандр Баршчэўскі (у цэнтры) і прафесар Мікола Хаўстовіч

**Славутая беларуская пісьменніца і змагарка за незалежнасць Беларусі Ларыса Геніюш стала вядучай постаццю XXI выпуску Алімпіяды беларускай мовы, якую арганізуе Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Яе творчасць і жыццё, побач іншага матэрыялу, ліцэісты аналізавалі з дапамогай настаўнікаў беларускай мовы, рыхтуючыся да школьнага, а пасля акруговага этапу алімпіяды, які прайшоў у Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Цэнтральныя элімінацыі Беларускай алімпіяды адбыліся 19 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім і прыняло ў іх удзел 11 асоб з Гайнаўскага і 9 асоб з Бельскага белліцэяў. Беластоцкія ліцэісты, якія вучацца беларускай мове, паспяхова прымалі ўдзел у папярэдніх выпусках алімпіяды. Аднак навучэнцаў беларускай мовы там мала і ў гэтым годзе не прыступілі яны да алімпіяды.**

— Мы рады, што дайшлі да цэнтральных элімінацый алімпіяды і калі набярэм адпаведную колькасць балаў, можам стаць фіналістамі алімпіяды. Калі гэта ўдасца, не будзем ужо здаваць матуры па беларускай мове, а прыдзеляць нам 100% магчымых да здабыцця балаў, — гаварылі белліцэісты пасля пісьмовай часткі алімпіяды.

Пэўна прынамсі частка з іх разлічвала стаць лаўрэатамі алімпіяды. Зараз невялікая колькасць удзельнікаў алімпіяды становіцца яе лаўрэатамі і дабіцца гэтага звання складана. Затое перад імі адкрываюцца вялікія прывілеі і магчымасці, бо лаўрэатаў па-за конкурсам прымаюць на цікавыя спецыяльнасці ў многіх вышэйшых навучальных установах, перш за ўсё ў Варшаўскім універсітэце.

— Рыхтуючыся да алімпіяды, мы глыбей знаёміліся з беларускай літаратурай, мовай і гісторыяй. Знаёмімся таксама з новымі творамі, засвойваем новы матэрыял. Гэтыя веды і ўмеласці застануцца незалежна ад канчатковай ацэнкі нашага ўдзелу ў алімпіядзе, — меркавалі белліцэісты.

Згодна з правіламі алімпіяды, фіналістамі становяцца ўдзельнікі яе цэнтральнага этапу, якія набяруць прынамсі 100 балаў, што састаўляе 50% ад усіх магчымых да здабыцця балаў падчас цэнтральнага этапу алімпіяды. Прадбачваецца, што 10-20% вучняў ад агульнага ліку фіналістаў, якія набралі найбольш балаў, можа атрымаць званне лаўрэата алімпіяды.

— Вучні ахвотна прыступаюць да Алімпіяды беларускай мовы, вучацца, каб перайсці да чарговых яе этапаў і хочуць прынамсі стаць фіналістамі, што звальняе ад матуральнага экзамену па беларускай мове. У нас перш за ўсё спаборнічаюць пабеларуску вучні першых і другіх класаў. У гэтым годзе толькі адна вучаніца трэцяга класа прыступіла да алімпіяды. Прывілеі для лаўрэатаў такія ж, як і па іншых алімпіядах. Я даведаўся, што лаўрэаты беларускай алімпіяды могуць быць прыняты на эканамічны напрамак вышэйшай установы ў Познані (калі паспяхова закончаць вучобу ў ліцэі і паспяхова справяцца з усімі матуральнымі экзаменамі — А. М.). Дай Божа, каб Алімпіяда беларускай мовы была цэлы час, бо яе ўзровень высокі, а рэзультаты таксама відаць, — заявіў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк.

Вядучай тэмай XXI выпуску Алімпіяды беларускай мовы было жыццё і творчасць Ларысы Геніюш. Падчас цэнтральных элімінацый удзельнікі алімпіяды мелі да выбару дзве тэмы па творчасці Ларысы Геніюш. У цэлым белліцэісты пісалі сачыненне на адну з трох прапанаваных да выбару тэм: 1) Адлюстраванне рэчаіснасці сталінскіх лагераў у «Споведзі» Ларысы Геніюш; 2) Паэзія Ларысы Геніюш як барацьба са сталінскай сістэмай; 3) Інтымная лірыка «белавежцаў».

— Жыццё Ларысы Геніюш гэта для нашых вучняў добры прыклад беларускага патрыёта, змагара за незалежнасць Беларусі, які многа выцерпеў у сталінскай рэчаіснасці. Мы аналізавалі складанае жыццё Ларысы Геніюш і яе цікавую творчасць, звярталі ўвагу на моўныя і граматычныя пытанні, — сказала настаўніца беларускай мовы з Бельскага белліцэя Яўгенія Таранта. Дабавіла, што вучні асабліва дакладна чыталі і аналізавалі «Споведзь» Ларысы Геніюш. Зараз ёсць магчымасць праслухаць твор як па-беларуску, так і па-польску.

— Постаць Ларысы Геніюш паўстае перад беларусамі не толькі як таленавітая жанчына, але і змагарка за нацыянальна-вызвольную ідэю. Яна застаецца ўзорам крышталынасці, узорам адважнай ахвярнасці — геразіму, — напісаў старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы, былы кіраўнік кафедры беларускай філалогіі на Варшаўскім універсітэце прафесар Аляксандр Баршчэўскі ў сваёй характарыстыцы Ларысы Геніюш, падрыхтаванай для ўдзельнікаў алімпіяды. Большасць белліцэістаў рашылася пісаць сачыненні па жыцці і творчасці Ларысы Геніюш. Аднак частка ўдзельнікаў алімпіяды, перш за ўсё бельскія белліцэісты, вырашыла, што будуць аналізаваць творчасць «белавежцаў».

— Мы пісалі пра інтымную лірыку «белавежцаў» на падставе твораў Алеся Барскага і Віктара Шведа. Мы ведалі, што вядучая тэма алімпіяды тычыцца Ларысы Геніюш і будуць прапановы пісаць сачыненні, прынамсі на адну тэму, па творчасці Ларысы Геніюш, але нам асабліва падабаюцца вершы Алеся Барскага і цікавыя нам вершы Віктара Шведа, — сказалі дзве белліцэісткі напярэдадні 90-х угодкаў з дня нараджэння Віктара Шведа. У гэтым годзе выпадаюць таксама 85-я ўгодкі з дня нараджэння старшыні Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы, прафесара Аляксандра Баршчэўскага (Алеся Барскага).

— Мне асабліва падабаюцца вершы Алеся Барскага пра каханне і пачуцці яго да маці. Цікавыя таксама вершы Віктара Шведа. У абодвух паэтаў прысутная тэма любові да сваёй малой айчыны, — сказала Караліна Шэшка.


■ Гайнаўскія і бельскія белліцэісты – удзельнікі цэнтральнага этапу XXI выпуску Алімпіяды беларускай мовы

Многа белліцэістаў пісала наконт адлюстравання рэчаіснасці сталінскіх лагераў у «Споведзі» Ларысы Геніюш і пра яе паэзію ў барацьбе са сталінскай сістэмай. Наталля Паўлючук, Аляксандра Сычэўская і Юліта Кулік выявілі радасць, што тэмы, па якіх прапанавалася пісаць сачыненні, тычыліся матэрыялу, які вучні разглядалі з настаўнікамі.

— Ларыса Геніюш — беларускі патрыёт. Аналізуючы яе жыццё і творчасць, паўстае карціна вельмі складанага і цяжкага жыцця ў Савецкім Саюзе, у складзе якога ў мінулым была Беларусь, — сказала Малгажата Ясюк, якая беларускую алімпіяду лічыць сваёй алімпіядай. — Я адчуваю сябе беларускай і дома часткова размаўляю пабеларуску, а можа лепш сказаць — пасвойму.

Кацярына Трусевіч сказала, што ўдзел у Алімпіядзе беларускай мовы з'яўляецца для яе асабліва важным, бо цікавіць яе беларуская філалогія. Іншыя белліцэісткі, Паўліна Марчук, Марта Федарчук і Дамініка Карпюк выказалі задавальненне, што дайшлі да цэнтральнага этапу алімпіяды. Былі яны пад уражаннем складанасці, якія прыходзілася перaадольваць Ларысе Геніюш у лагерах і штодзённым жыцці ў Савецкім Саюзе. Падчас пісьмовай часткі алімпіяды ліцэісты выконвалі яшчэ моўныя і граматычныя практыкаванні ды тлумачылі тэкст з польскай мовы на беларускую. Вучні гаварылі, што былі складанасці падчас тлумачэння тэксту, а лягчэй было ім справіцца з практыкаваннямі. У цэлым вучні маглі набраць да 120 балаў за пісьмовую працу. 55 балаў — за сачыненне, 40 балаў — за граматычны тэст і 25 балаў — за тлумачэнне тэксту.

— У нашай школе да алімпіяды прыступілі 25 асоб. Усе яны паспяхова справіліся са школьным этапам, а з акруговых элімінацый да цэнтральнага этапу перайшлі 11 вучняў. Сёння яны змагаюцца за званне лаўрэата і фіналіста. Пераможцы Алімпіяды беларускай мовы пасля рашаюцца вучыцца беларускай мове індывідуальна, у супрацоўніцтве з настаўнікам беларускай мовы і не ходзяць ужо на заняткі беларускай мовы, бо такая магчымасць даецца ўсім пераможцам прадметных алімпіяд. Усе яны паспяхова спраўляліся з кваліфікацыйным экзаменам, канчатковай праверкай іх ведаў і ўмеласцей па беларускай мове ў канцы вучобы ў белліцэі. Гэтыя вучні таксама зволнены з матуральнага экзамену па беларускай мове, што з'яўляецца вялікім стымулам, каб прыступаць да Алімпіяды па беларускай мове, — сказаў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Ян Карчэўскі. Пахваліў ён таксама выбар жыцця і творчасці Ларысы Геніюш як вядучай тэмы алімпіяды.

Вярнуўшыся з абеду, вучні займаліся яшчэ апошняй падрыхтоўкай да вусных выказванняў па выбранай тэме. Усе ўдзельнікі цэнтральнага этапу алімпіяды былі размеркаваны паміж трыма камісіямі, якія ацэньвалі іх адказы на адну з трох прапанаваных да выбару тэм. За вусныя адказы ліцэісты маглі атрымаць да 80 балаў на магчымых да здабыцця ў час алімпіяды 200 балаў. Таму без добрага вуснага адказу практычна немагчыма было стаць лаўрэатам алімпіяды. Вучні аб гэтым ведалі і многа часу ў школе і дома адвялі аналізу вялікай колькасці тэм, якія прапанаваліся як падрыхтовачны матэрыял да вусных выказванняў.

— Я аналізавала многа тэм да вусных адказаў і на адны з іх лягчэй выказвацца, а на другія цяжэй. Спадзяюся на ўдалае вуснае выступленне. Затое складаным мне паказаўся пераклад тэксту з польскай мовы на беларускую, бо, між іншым, трэба было ведаць словы наконт харчавання, — гаварыла Наталля Ціханюк.

Тэмы да вусных адказаў на ўзроўні цэнтральнага этапу алімпіяды тычыліся беларускай літаратуры розных перыядаў, беларускай культуры ў Польшчы, жыцця беларусаў у Польшчы, нашых абрадаў, прэсы, школьніцтва.

— Я выказвалася вусна наконт творчасці Васіля Быкава. Яго творы прасякнутыя псіхалагізмам, падзеі якіх часта адбываюцца ў ваенны час, — заявіла Юліта Кулік пасля вуснага выказвання.

Вусныя выступленні ацэньваліся ў Бельску, а пісьмовыя працы правяраюцца пазней. Толькі пасля зацвярджэння ўсіх вынікаў камісіяй, вынікі XXI выпуску Алімпіяды беларускай мовы будуць дасланы ў Бельскі і Гайнаўскі белліцэі, каб маглі з імі пазнаёміцца ўдзельнікі алімпіяды і іх настаўнікі. Лаўрэаты і фіналісты атрымаюць у пазнейшым часе ўзнагароды.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Пра менш вядомы Райск (ч. I)








**У Райск дабіраюся поездам. Райск, гэта апошні чыгуначны прыпынак з Беластока перад Бельскам. І гэта адзіны прыпынак на гэтай лініі, апрача прыпынку Беласток-Стадыён, дзе ўжо няма будынка чыгуначнай станцыі. На іншых прыпынках яны стаяць, хаця ўсяляк забітыя, але стаяць...**

Пасля станцыйнай мураванкі на прыпынку Райск, якая стаяла яшчэ некалькі гадоў таму, зараз і следу не пазнаць — месца зарасло нізкай пакуль расліннасцю; астаўся адно перон. Ад прыпынку каля двухсот метраў палявой дарогі да свежанькай асфальтоўкі. Чорненькая яна яшчэ і роўненькая як стол. Па ўсім відаць, што гэта выбарчая асфальтоўка, якая з'яўляецца перад самімі выбарамі і мае служыць шчыльнейшай повязі мясцовай улады з народам, мае быць тым любчыкам, які спародзіць прыцягненне электарату.

З чыгуначнай станцыі можна дабрацца ў вёску таксама па чыгуначным насыпе. Раней, яшчэ нават у вайну, тут пралягалі два пуці, але зараз пасля вайны адна пара рэек была знята, мабыць дзеля пераплаўкі на танкі. І цяпер выгадна прайсціся па вызваленым месцы. А побач чыгуначнай паласы, дзе дрэнажны роў, расце высокая расліннасць. Яловы жывапліт, раней акуратна стрыжаны, які меў захіляць пуці ад снегу, зараз вырас у стройныя елкі, якія суправаджае і іншая расліннасць, якой цяперашнія чыгуначныя службы не перашкаджаюць прэзентавацца свету ў поўнай красе. У гэтым прыродным страі стаяць і звенні платоў, якія калісь расстаўлялі па полі ўздоўж чыгунак, таксама каб захіліць іх ад снегу. Былі яны прадбачаны на колішнія, багатыя снегам зімы, а ўжо ў цяперашнія, далікатненькія зімы яны бяздейнічаюць і памаленьку прыгніваюць.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага ў канцы ХІХ стагоддзя сціпла інфармаваў: „Rajsk, wieś, pow. bielski, gub. grodz., gm. Rajsk, 1413 dz[iesięcin] włośc. i 85 cerk. Gmina obejmuje 53 miejscowości, 761 domów włośc. (587 innych), 6129 mieszkańców włościan, uwłaszczonych na 12 325 dz. Nadto w gminie jest 130 dz. cerk. i kośc. i 5408 większej posiadłości. Zarząd gm. we wsi Haćki".

Больш змястоўную інфармацыю нясе трохмоўны (на англійскай, беларускай і польскай мовах) стэнд, што стаіць пасярэдзіне вёскі, які дае магчымасць пазнаёміцца з мясцовым мінулым усім, каго гэта зацікавіць. Вось вытрымкі з яе беларускамоўнай версіі: „Узнікненне сяла Райск астаецца нязнаным. У гістарычных запісах гэты назоў з'яўляецца ў 1523 г. у лісце аб наданні зямлі ў Райску бельскаму земляніну. Падчас спісвання каралеўскіх маёмасцяў Падляшскага ваяводства ў 1576 г. сяло было цэнтрам вайтоўства, мела 51 валоку (больш тысячы гектараў) зямлі. Дзве валокі меў войт, адну каралеўскі карл Міхал, адна прыналежыла мясцовай царкве. Жыхары мелі павіннасць адпрацоўваць паншчыну ў карысць маёнтка ў Сталавачы. У Райску было тады некалькі карчмаў. У першай палове XVII ст. у вёсцы з'явіліся свабодныя людзі, якіх абавязкам была вайсковая служба. Адным з іх быў Парфен Тэлях. Пасля яго з'явіліся браты Гальяш, Панас і Аляксандр Матушэвічы, Грыч і Тыч Калішэвічы, Сцяпан і Андрэй. Такі змешаны збор людзей уплываў на тэмперамент сяла, што захавалася і да сёння. Жыхары Райска ад пачатку гісторыі сяла былі праваслаўнымі. Не захаваліся дакументы аб узнікненні парафіі і пабудове царквы, да якой у XVI ст. прыналежалі навакольныя вёскі. Народнае паданне распавядае аб адміністратары фальварка Голдаку, які пасля з'яўлення іконы Багародзіцы ў лесе Голоўково побач Храбол вырашыў перавезці яе ў Сталавачы і [там] пабудаваць царкву. Гасцінец праходзіў цераз Райск. Калі воз, на якім была ікона, наблізіўся да ўзгорка, запрэжаныя валы не крануліся з месца. Факт той палічылі Божым знакам, каб менавіта тут пабудаваць царкву, а ў ёй памясціць ікону. Апрача яе ў святыні знаходзіліся іншыя каштоўнасці: срэбрны крыж з надпісам [з] 1618 г. і срэбны келіх з вобразам анёлаў з 1666 г. У 1804 г. парафія была беднай, налічвала 994 асобы, якія жылі ў 264 дамах, а старая царква магла й увогуле разваліцца. У 1816 г. родам адсюль айцец Базыль Маркевіч быў бельскім дэканам і берасцейскім канонікам. Дзякуючы яму ў Райску паўстаў прытулак для бедных і бяздомных (г.зв. дзядоў). У той час мясцовая царква з цудадзейнай іконай была важным месцам пілігрымак. У 1855 г. побач дарогі на Храболы былі закладзены новыя могілкі, дзе пабудавана царкву Апекі Божае Маці. У вёсцы пабудавана мураваную царкву (1869-1875 гг.). У пачатку ХХ ст. у парафіі паспяхова дзейнічала царкоўна-прыхадское школьніцтва. Падчас І сусветнае вайны праваслаўныя вымушаны былі падацца ў бежанства. Было страчана шмат з абсталявання царквы. Пасля вяртання жыхароў з Расіі, нягледзячы на шматлікія цяжкасці, праваслаўная парафія ў Райску адрадзілася. У верасні 1937 г. адбылося пасвячэнне адноўленай царквы. Падчас пацыфікацыі ў чэрвені 1942 г. яе разбурылі гітлераўцы. Сённяшні храм апосталаў Пятра і Паўла перавезены быў у 1960-х гадах з Патурына каля Тамашова-Люблінскага".

Трагедыя Райска добра вядомая жыхарам нашай часткі Беласточчыны. 16 чэрвеня 1942 года гітлераўцы расстралялі 149 жыхароў вёскі. Была гэта своеасаблівая „кара" за забойства савецкімі партызанамі дваіх немцаў каля раенскіх могілак. Але чаму ж была гэта такая зверская расправа? Гітлераўцы асабліва праследавалі камуністаў, напрыклад у пачатку акупацыі ў суседняй Нарваўскай гміне яны расстралялі каля сарака тамашніх грамадскіх актывістаў ранейшай савецкай адміністрацыі. А Райск лічыўся адной з найчырванейшых у нас мясцовасцей...

Беластоцкі гісторык Генрык Маецкі так быў пісаў у 1986 годзе: „**Rajsk był jedyną wsią w okresie międzywojennym w aktualnych granicach województwa, której mieszkańcy zbiorowo odmówili płacenia podatków. Wystąpienie chłopów w Rajsku w 1934 r., chociaż miało źródła ekonomiczne, nosiło wyraźnie polityczny charakter, było inspirowane i kierowane przez partię komunistyczną. Miały one miejsce w warunkach trwającego w kraju kryzysu gospodarczego. Zmniejszony popyt na produkty rolne, a wskutek tego spadek cen, wytworzyły sytuację, w której poważna część drobnych rolników w całym kraju, a szczególnie w jego północno-wschodniej części nie była w stanie systematycznie uiszczać należności podatkowych. W samym Rajsku, liczącym wówczas 156 gospodarstw, zadłużenie wyniosło w 1934 r. około 30 tys. zł. W takiej sytuacji władze administracji państwowej zdecydowały się na przymusową egzekucję zadłużeń podatkowych...**".

3 кастрычніка 1934 года ў Райск з'явілася секвестратар, якому людзі заявілі, што падаткаў не заплацяць. 8 кастрычніка з'явіўся ён у суправаджэнні чатырох паліцыянтаў — з тым жа самым вынікам. 13 кастрычніка ў Райск з'явілася атрад паліцыі ў сіле дваццаці чатырох функцыянераў, дайшло да схваткі: у бок паліцыянтаў паляцелі камяні, тыя ж адказалі залпамі ўгару, спыняючы масу сялян не толькі з Райска, але і прыбылых з навакольных вёсак: Гацькоў, Праневіч, Храбол, Дэнісак, Гусакоў, Плёсак, Плютыч і Зубава...

Генрык Маецкі: „**Równocześnie celem wzmożenia akcji antypodatkowej wybuchł w Rajsku strajk dzieci szkolnych. Domagano się wykładów religii prawosławnej w szkole w języku białoruskim, a nie jak dotąd po polsku. W takiej sytuacji powiatowe władze administracji państwowej zdecydowały się na przeprowadzenie akcji pacyfikacyjnej w Rajsku i najbliższych okolicach. Komenda Wojewódzka PP w Białymstoku przysłała do Bielska Podlaskiego znaczne uzupełnienie kadrowe. Do akcji pacyfikacyjnej skierowano 7 oficerów i 132 szeregowych PP. Akcję rozpoczęto 17 października, objęła ona wsie: Rajsk, Proniewicze, Plutycze, Haćki i Chraboły. Aresztowano też członków Komitetu Rejonowego KPZB. W sumie zatrzymano około 500 osób, w tym 40 z Rajska. [...] Epilog wydarzeń rajskich rozstrzygnął się na sześciu procesach sądowych. Najgłośniejszy z nich proces „39" odbył się w Sądzie Okręgowym w Białymstoku w dniach od 24 do 28 marca 1936. Spośród podsądnych za najbardziej winnych uznano Teodora Sawickiego i Jana Ostrowskiego. Otrzymali oni najsurowszą karę — 10 lat więzienia. 21 osób otrzymało wyrok od 1 do 8 lat więzienia...**".

Віктар Рудчык быў у 1969 годзе пісаў пра вёску Райск: „Яна быццам па іроніі называецца Райскам. Бязлітасны лёс і суровая гісторыя выбралі яе сярод тысяч іншых вёсак, каб сталася сапраўдным жывым сімвалам усяго гэтага, што тварылася на нашай роднай Беласточчыне на працягу апошняга паўстагоддзя — сімвалам галоднай і халоднай бяды, незаслужанай і яўнай крыўды, адчайнага і геройскага змагання". Гэтыя словы напісаў ён як адгалоску на кніжку „Топтаная зямля" („**Ziemia deptana**") варшаўскай пісьменніцы Мар'і Шулецкай, якой дзеянне разыгрываецца менавіта ў Райску ў ваенны час. І далей: „Кніжка Мар'і Шулецкай гэта не кірмашовы ландшафцік. Яна глыбока сягае ў глебу нашай зямлі, смела адлюстроўвае самыя складаныя канфлікты. Мар'я Шулецкая паставіла сабе складанае заданне: яна рашыла напісаць аповесць пра жыццё і змаганне, пра цяжкі працавіты лёс людзей, якім давялося жыць у паўднёва-усходніх раёнах Беласточчыны. Раенская гісторыя даставіла ёй толькі літаратурнай сыравіны, сталася сімвалам".

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Моцны бок Гімназіі № 7 — беларуская мова

**„Дзень адкрытых дзвярэй" прыцягнуў дзясяткі людзей у Гімназію № 7, што ў Беластоку. Кожны мог пазнаёміцца не толькі з адукацыйнай прапановай школы, але таксама з настаўнікамі і вучнямі гімназіі. Зацікаўленнем наведвальнікаў карысталася зала беларускай мовы, у якой маладыя беларусы сумленна адказвалі на ўсе пытанні, а таксама заахвочвалі да вучобы, пакуль яшчэ, „не надта папулярнай" мовы.**



■ Настаўніца Альжбета Руткоўская і наведвальнікі беларускай залы ў Гімназіі № 7

— Кожны, хто заходзіць у нашу залу, можа дапасаваць птушкі, характэрныя беларускім вышыўкам, да пачуццяў, якія яны сімвалізуюць, — кажа вучаніца, апранутая ў народную сарочку. — Птушкі — характэрны арнамент у нашай народнай творчасці. Шляхам забавы наведвальнікі могуць пазнаць частку нашай культуры.

Апрача гульні, якою зацікавіліся не толькі шасцікласнікі, але таксама іхнія бацькі, у зале беларускай мовы Павал і Мішка давалі адказы на самыя складаныя пытанні. На прыклад: „Ці цяжка навучыцца беларускай мове? Хаця сам Павал лічыць гэты прадмет адным з лягчэйшых, ведае, што вялікая ў гэтым заслуга ягоных бацькоў, якія ў хаце размаўляюць па-свойму. У выпадку нейкіх сумненняў з боку патэнцыйных гімназістаў ці іхніх бацькоў, хлопцы адсылалі да стала, на якім стаяла талерка з дамашнімі піражнымі.

— Фактычна ёсць так, што пераважна прыходзяць да нас вучні, якія вывучалі беларускую мову ў пачатковай школе, — кажа настаўніца, Альжбета Руткоўская. — Аднак мяне вельмі цешыць тое, што ёсць і такія асобы, якія ніколі не вывучалі беларускай мовы і менавіта ў нас, у гімназіі, пачынаюць з пісання літар. Пазней яны, як усе апошнія, вельмі ахвотна і пасняхова прымаюць удзел у розных конкурсах, ці проста ў занятках.

Словы настаўніцы пацвярджае выказванне Клаўдзіі Галінскай, шасцікласніцы Непублічнай пачатковай школы святых Кірыла і Мяфодзія і магчыма будучай вучаніцы Гімназіі № 7:

— Мая сяброўка ніколі не вучылася беларускай мове. Я расказвала ёй пра тое, што мы робім на занятках, як гэта пашырае нашы магчымасці. Цяпер яна, разам са мною, хоча пачаць вучыцца беларускай мове ў гімназіі.

Заняткі беларускай мовы ў гімназіі № 7 гэта не толькі рэалізацыя школьнай праграмы, але таксама конкурсы, удзел у жыцці беларускай меншасці Падляшша ці проста супольны клопат пра беларускую залу. Гэта малая супольнасць, якую ствараюць беларускамоўныя вучні. Аднак, як падкрэслівае настаўніца Альжбета Руткоўская, найважнейшым з'яўляецца прадметны конкурс, у якім штогод гімназія мае сваіх лаўрэатаў:

— Вядома, вучням гэта вельмі дапамагае ў будучыні. Могуць яны пайсці ў любы ліцэй, які хоча.

Сёлета лаўрэатамі прадметнага конкурсу па беларускай мове сталі Куба Тымашэвіч і Томэк Жук — віншуем! На жаль, нядоўга перамогай карыстаўся Янка Конюх, шматразовы лаўрэат шматлікіх прадметных конкурсаў — у тым ліку па беларускай мове. Вось, з невядомых па сёння прычын, камісія падняла планку так, што Янку не хапіла аднаго бала, каб стаць заслужаным лаўрэатам. „Заслужаным", бо доказаў на гэта шмат. Якраз Янка стаў абраны сваімі сябрамі прэс-сакратаром гімназіі, паколькі найлепш карыстаецца беларускай мовай. Не ўспамінаючы ўжо пра перамогу ў конкурсе чытання па-беларуску, які прайшоў на мінулых тыднях. У гэтым выпадку Янку засталося ўзяць прыклад з крыху мудрэйшага ад сябе Эйнштэйна, які на абсурд рэагаваў смехам.

Самая зала беларускай мовы прываблівае не толькі эстэтыкай, але перш за ўсё тым, што недакучліва прапануе вучням напрамак развіцця. На сцяне можна пабачыць цэлы пантэон беларускіх пісьменнікаў — ад Янкі Купалы па Рыгора Барадуліна. Вісіць таксама бел-чырвона-белы сцяг з надпісам „Дзень Волі", лагатып Радыё Рацыя і зроблены вучнямі гадзіннік, на цыферблаце якога віднее надпіс „Ніва". Нельга не згадаць насценную дошку, поўнасцю прысвечаную Янку Купалу. Пісьменнік шмат сваіх твораў прысвяціў менавіта дзецям, у якіх бачыў надзею нашай будучыні. Паэт у сваіх творах таксама схіляў дарослых чытачоў да рэфлексіі, што тая ж „будучыня" ў вялікай ступені залежыць ад выхавання дзяцей. Але, здаецца, якраз гэтае настаўніца беларускай мовы Альжбета Руткоўская выдатна разумее.

Набор у Гімназію № 7 з навучаннем беларускай мовай пачнецца 23 сакавіка. Спіс прынятых кандыдатаў будзе вядомы 6 ліпеня.

**Тэкст і фота Уршуля ШУБЗДА**

*Грамадскае аб'яднанне*

**«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»**

№ 34 ад 23 сакавіка 2015 г.

Спадару ВІКТАРУ ШВЕДУ

Найпаважаны ВІКТАР МІКІТАВІЧ!

Ад імя Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў сардэчна віншуем Вас, ганаровага сябра нашай арганізацыі, з высокім юбілеем!

Мы ганарымся Вамі як вядомым паэтам, перакладчыкам і грамадскім дзеячам, аўтарам паэтычных зборнікаў, якія выхавалі і выхоўваюць пакаленні маладых беларусаў і беларусак.

Мы ведаем і шануем Вас як выдаўца і сузаснавальніка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», як шчырага і клапатлівага жыццёвага дарадцу.

Шчыра жадаем Вам зуброўскага здароўя, сакавіцкай натхнёнасці, пушчанскага дабрабыту і беларускай радасці!

Ад імя Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў
Барыс Пятровіч Сачанка


Фота Міры ЛУКШЫ

Ад імя Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" віншаванні **Віктару Шведу** перадае намеснік старшыні арганізацыі **Віктар Стахвюк**.

## Дата з Календара

Адзінота паэта

# 150 гадоў таму нарадзіўся Стары Улас



Беларускі паэт і пісьменнік Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі, больш вядомы як Стары Улас, нарадзіўся 23 сакавіка 1865 году ў Валожыне. Бацькі будучага пісьменніка былі сялянамі. Маці займалася хатняй гаспадаркай, а бацька служыў кухарам у графа Тышкевіча. Бацькі вельмі рана памерлі, хлопчык асірацеў у 9 гадоў. Маленькага Уладзіслава ўзяла пад апеку цётка Юзэфа Амяльянская. Калі хлопчык крыху падрос, таксама як некалі бацька пайшоў працаваць кухарам да Тышкевіча. Пазней быў аб'ездчыкам. З-за сіроцтва не змог атрымаць сістэмнай адукацыі, хоць меў прагу да вучобы. Авалодаць пісьменнасцю яму дапамог выпускнік Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі Зяновіч, чалавек ліберальна-дэмакратычных поглядаў.

Каля дваццаці гадоў Стары Улас працаваў у Тышкевіча аб'ездчыкам, потым ляснічым ажно да Першай сусветнай вайны. Сямейнае жыццё склалася ўдала, Сівы-Сівіцкі меў сямейства з 12 чалавек. У сваёй валожынскай хаце адчыніў школку, дзе дзеці вучыліся на роднай беларускай мове. Дапамагаў дзецям беднаты, часта заступаўся за сялян. Нейкі час у 1914 г. жыў у мястэчку Варняны на Астравеччыне, куды быў пераведзены па справах службы. Пазней з сям'ёй перабраўся ў Вільню, але ў трывожны час у горадзе было цяжка. Таму ў 1920 г. Стары Улас пераехаў у вёску Сужаны на Віленшчыне, дзе ў маёнтку працаваў ляснічым. Пазней у 1934 г. пераехаў у Шашэльгішкі Віленскага павета, дзе займаўся земляробствам і пражыў там да старасці.

Як паэт Стары Улас дэбютаваў вершамі ў 1907 годзе ўжо ў салідным узросце ў «Нашай ніве». Змяшчаў свае вершы і вершаваныя апавяданні ў беларускіх дакастрычніцкіх і заходнебеларускіх календарах. Жонка паэта, Антаніна Вайцяхоўская, лічыла сябе польскай шляхцянкай і была незадаволена тым, што яе муж піша па-беларуску. Не знаходзіў паразумення Сівы-Сівіцкі і з некаторымі іншымі блізкімі, але далёкімі духоўна людзьмі. Такая ўжо доля беларускага паэта — застаецца па вялікім рахунку ў адзіноце. Стары Улас цікавіўся народнымі паданнямі, абрадамі, песнямі, прыпеўкамі, выкарыстоўваў іх у сваёй творчасці. Пісаў пра тое, што бачыў у вёсцы, стварыў шмат абразкоў беларускага жыцця. Яго творчасць вельмі высока цаніў Максім Багдановіч. Выявіў Стары Улас сябе і як востры публіцыст, крытыкуючы розныя заганы тагачаснага грамадства.

Многа твораў пісьменніка надрукавана з нагоды розных здарэнняў. За верш «Суд», дзе крытыкавалася бюракратычная судовая сістэма, самога Сівіцкага выклікалі ў суд і сур'ёзна ўшчувалі. Шэраг вершаў Старога Уласа надрукаваны ў «Анталогіі беларускай паэзіі» (1961), зборніку «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (1969). У наш час выйшла кніга вершаў і публіцыстыкі «Год беларуса» (1990). У цэлым жа вершы творцы расцярушаны па розных месцах.

Памёр Стары Улас 30 верасня 1939 г. ва ўзросце 74 гадоў. Частка яго раскіданага архіва захоўваецца ў Беларусі і Літве, частка ў Польшчы ў горадзе Гнезна, куды пераехала пасля смерці паэта ягоная жонка.

Памяць пра Старога Уласа ў Беларусі была ўшанавана ў Валожыне — на доме, дзе ён жыў да 1914 года, усталявана мемарыяльная шыльда.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Новыя ўлады ПСН

17 сакавіка г. г. у Гайнаўцы адбыўся справаздачна-выбарны сход павятовага гуртка Польскага саюза невідушчых (ПСН), які налічвае 64 членаў. У сходзе ўдзельнічалі прадстаўніцы ваяводскіх улад ПСН, між іншым Агнешка Шустко, ды кіраўнік Павятовага цэнтра дапамогі сям'і Павел Шыманскі і сакратар Гарадской управы ў Гайнаўцы Яраслаў Грыгарук. На сход прыйшлі члены ПСН з Гайнаўкі ды прыехалі з Гайнаўскай, Нараўчанскай і Белавежскай гмін.

Старшыня праўлення павятовага гуртка Аліцыя Леанюк зачытала справаздачу праўлення ПСН за чатырохгадовы перыяд дзейнасці — ад 8 красавіка 2011 года. Пасля разгарнулася дыскусія над справаздачай ды былі вызначаны накірункі далейшай дзейнасці. Праца праўлення гуртка ПСН была плённай. Яна паказана ў прыгожай хроніцы. У ёй знаходзяцца артыкулы пра дзейнасць гуртка, якія былі надрукаваны ў беларускім штотыднёвіку «Ніва».

Жыхары Гайнаўшчыны з белай палачкай часта сустракаліся на розных мерапрыемствах, арганізаваных спецыяльна для слаба відучых, былі экскурсіі і пікнікі ды канцэрты, а таксама спартыўныя спаборніцтвы. Падчас мерапрыемстваў невідушчым дапамагалі маладыя валанцёркі (былі гэта перш-наперш вучаніцы гайнаўскіх школ), а таксама актыўныя жанчыны — сімпатыкі арганізацыі невідучых. Члены ПСН з Гайнаўскага павета штогод ездзяць на санаторнае лячэнне.



Старшыня праўлення павятовага гуртка ПСН Аліцыя Леанюк сядзіць першая злева.

Новым старшынёю праўлення гуртка ПСН на чатыры гады выбралі Аліцыю Леанюк (яна дасюлешняя старшыня). У склад праўлення ўвайшлі Януш Пух, Мікалай Янкоўскі, Эва Барысавец і Дарота Крулікоўская. Дэлегатам на ваяводскі з'езд ПСН была выбраная Аліцыя Леанюк. Навабранаму праўленню жадаем поспехаў у працы на карысць невідучых.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




# Страховачныя хітрыкі

25 лютага я аднаўляў страхавы поліс на маёмасць, значыць на жылы дом, гаспадарчы будынак і дамашнія рэчы (рухомую маёмасць). Перад спісаннем дамовы я прад'явіў агенту мінулагодні дакумент і сказаў, што вызначаю страхавачныя сумы за дом — 70 тыс., гаспадарчы будынак — 5 тыс. і на рухомую маёмасць — 7 тыс., пры гадовай складчыне 174 зл. у год. Так было прынята праз апошнія чатыры гады. Я не прысутнічаў пры састаўленні дакумента. Сказаў адно, што належнае хачу заплаціць банкавым пераводам у двух месячных узносах. Калі агент прад'явіў мне поліс для подпісу, дык выявілася, што гадавая складчына павысілася на 17 зл. На маё пытанне, чаго тычыцца прыбаўка, агентка адказала:

— Гэта таму, што належную суму плаціце ў дзвюх месячных ратах.

— А дзе гэта запісана? — пытаю.

— Гэта ўнутраны наш закон...

Унізе поліса я прыкмеціў прыпіску маленькімі літарамі: „Do umowy mają zastosowanie Ogólne Warunki Ubezpieczenia PZU Dom, ustalone uchwałą Zarządu Powszechnego Zakładu Ubezpieczeń Spółki Akcyjnej Nr. UZ/354/2013 z dnia 18.12.2013 r.".

Я пазнаёміўся са зместам вышэйзгаданага дакумента. На старонцы 29 пад параграфам 80 пкт. 2 запісана: „Składka ubezpieczeniowa za 12-miesięczny okres ubezpieczenia może być płatna jednorazowo lub w ratach... Ніякай прыпіскі аб 10-працэнтнай прыбаўцы за гэтую здзелку я не заўважыў. Страховачныя хітрыкі, значыцца. Карыстаюцца яны сваімі прынцыпамі, набіваюць кліентаў у бутэльку. А ці так быць павінна?...

**(ус)**

# Веласіпедныя дарожкі будуць спалучаны

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных сцежак-дарожак. Зараз пачалі пабудову трасы ўздоўж вуліц Сянкевіча і Васількоўскай ад алеі Пілсудскага да вуліцы ген. Андэрса. Яна спалучыць алею Пілсудскага з вуліцай ген. Сасабоўскага (інакш гаворачы спалучыць цэнтр горада з Выгодай). А там новая доўгая-доўгая веласіпедная дарожка ў канец вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней вуліца 27 Ліпеня) ды ажно ў канец горада. Далей ужо лес ды дарогі ў Грабаўку і ў Саўляны на тэрыторыі Супрасльскай гміны.

Сёлета іншая дарожка спалучыць вуліцу Баранавіцкую з вуліцай ген. Суліка. У гэтым годзе пабудуюць 2,5 км веласіпедных трас. Адна са сцежак спалучыць вуліцу Хробрага з вуліцай Пястоўскай. „На пабудову дадатковых трас магістрат возьме з бюджэту 3 мільёны злотых", — гаворыць Кацярына Раматоўская з беластоцкага магістрата.

У далейшых планах — пабудова сцежак-дарожак уздоўж вуліцы І Арміі Войска Польскага, вакол Універсітэцкага пляца ды ўздоўж вуліц Перамогі і Чыгуначнай (будзе гэта спалучэнне з веласіпеднай дарожкай уздоўж алеі Салідарнасці). Гэтыя добрыя весткі цешаць беластоцкіх раварыстаў. Вядома, было б вельмі добра, каб па спецыяльных дарожках можна было спакойна даехаць у цэнтр горада.

**(яц)**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. гмінны першастаецель = 30 _ 3 _ 9 _ 2 _;
2. няпрошаны горшы за татарына = 22 _ 23 _ 12 _ 37 _ 38 _;
3. выклікае здзіўленне, цуд = 6 _ 7 _ 36 _ 25 _ 19 _;
4. любіць узяць = 18 _ 13 _ 16 _ 17 _;
5. між Ракам і Дзевай = 4 _ 8 _ 24 _;
6. прадстаўнічы орган дзяржаўнай улады ў СССР = 27 _ 35 _ 10 _ 11 _ 34 _;
7. гразева-каменны горны паток, узрушаны дажджавой або талай вадой = 33 _ 26 _ 14 _ 28 _;

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | 18 | 19 | | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | 29 | 30 | 31 | 32 |
| | | | | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

8. музычны твор з некалькіх п'ес, аб'яднаных адзінствам задумы = 29 _ 5 _ 15 _ 20 _ 21 _;
9. член племені, якое ў старажытнасці насяляла ўсходнюю частку Малой Азіі (муж хеткі) = 1 _ 31 _ 32 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Бінокль, чай, калаж, Уагадугу, зебра, кавалер, Парыж, Карачы, улан.

Рашэнне: **Куй жалеза пакуль гарачае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Уладзіміру Цілюльку** з Саколкі і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 29.03 — 04.04

**(22.03. — 20.04.)** 29-31.03. не ўводзь ніякіх змен, хіба што пазбудзься старых шкодных навыкаў. 3-5.04. не вельмі прыемны час на кантакты з людзьмі і пачуццёвыя справы. Хтосьці можа падвесці цябе пад дурнога хату. Абавязкова абследуй сваё здароўе.

**(21.04. — 21.05.)** 28-30.03. не выдавай касы. Да 11.04. будзеш шукаць спакою і гармоніі. Ажыві сваю сувязь у пары. У сям'і час падагульвання і спрэчак. Працуй над сваёй фігурай. Не жыві на крэдыт. З 3.04. пачні шукаць новых напрамкаў; добры час на пошукі працы.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш марудны, пастарайся быць справядлівым. Не скрывай нічога і аб кожнай праблеме гавары адкрыта, бо можаш горка пашкадаваць. Будзь уважлівы дома. Энергія будзе цябе аж распіраць, выкарыстай яе. Будзеш мець шчасце на рабоце, паявіцца многа шанцаў на павелічэнне маёмасці (увесь красавік!).

**(23.06. — 23.07.)** Шанц на выйгрыш у апошнія дні сакавіка. Прабудзі ў сабе цёплыя пачуцці, лягчэй склеіш тое, што разбітае. Разлічвай на сяброў. Займіся сабою. У красавіку адчуеш сябе менш прыцягальным і спорным, не паддавайся! Урэгулюй свой спосаб жыцця. Чытай парады. Не рызыкуй. 3-5.04. могуць ускладніцца сямейныя справы, можа выявіцца штосьці, аб чым ты і не хацеў бы ведаць.

**(24.07. — 23.08.)** Больш часу пасвяці каханай асобе. Вясна заквітнее на вуліцы, і ў тваім сэрцы. Добры час дома і сярод сяброў. Будзеш поўны аптымізму і жыццёвых сіл, але не перанатужвайся. Не пазычай грошай. З 3.04. нядобры момант на радыкальныя прыёмы.

**(24.08. — 23.09.)** 28-31.03. не ўсе прыхільна глянуць на твае поспехі. Не слухай! На пачатку красавіка вырашай важнае. Сатурн падкрэсліць тваю рацыянальнасць і здольнасць да разумных выбараў. Выключы эмоцыі і старайся аб'ектыўна ацэньваць кожную сітуацыю. Аналізуй факты. Дома завядзі парадкі, таксама сярод родных. Не жартуй з хваробы — з 3.04. можа дарвацца да цябе нейкая інфекцыя.

**(24.09. — 23.10**.) 28-31.03. нішто перад табою не скрыецца! Пакажаш сваю празорлівасць і пераканаеш атачэнне да слушнасці тваіх заўваг. Першыя дзве дэкады красавіка не будзеш у найлепшай форме, цярпліва адчакай гэты час. Дома і сярод сяброў мілыя неспадзеўкі. Вучыся новых рэчаў. Дасі рады з праблемамі, але не будзеш мець вольнай рукі ў справах, на якіх табе моцна залежыць.

**(24.10. — 22.11.)** Звяртай увагу на дэталі і дробныя справы. Гэта ад іх будзе шмат што залежаць, здаецца, малаважнае здарэнне можа пазітыўна паўплываць на тваё жыццё. Знайдзі новую пасію. Гэта дадасць табе энергіі, ажывіць справы ў пары і зробіць цябе шчаслівым. Дома не будзь залішне крытычным. Займайся гімнастыкай, хадзі на працэдуры. На працы многа суперзадум. Падзяліся імі з шэфам. Можаш аформіць справу, якая над табою вісела пару тыдняў.

**(23.11. — 22.12.)** 28-30.03. пустыя абяцанні; старайся захаваць раўнавагу. Маеш шанц на вялікае каханне, старайся, усё ж, быць рэалістам. Можаш мець праблемы каб дагаварыцца са сваякамі, якія і не вельмі схочуць слухаць тваіх тлумачэнняў. Пры хваробе шукай палёгкі ў неканвенцыянальных метадах лячэння і зёлках. Вучыся новаму; паявяцца новыя шанцы — з працай або капіталаўкладаннем.

**(23.12. — 20.01.)** 1-4.04. будзеш сумленны і адважны. Разумна выканаеш свае абавязкі. Не рабі нічога сілай. Лёс сам прынясе табе змены і новыя пачуцці. Толькі будзь цярплівым! Памажы бацькам. У першай палове красавіка будзеш слабаваты. Слухай падказак свайго арганізма, апдачывай, расслабляйся, можа нават пайдзі ў адпачынак ці едзь у санаторыю. А на гарызонце будзе шмат цікавых заняткаў і грошай.

**(21.01. — 19.02.)** З 3.04. поспехі на працы. Спраўна дасі рады з абавязкамі, сарганізуеш таксама хатняе жыццё. Цешся блізкасцю і выключы зайздрасць, бо яна можа ўсё знішчыць. Дома будзеш самастойны, многа хатніх спраў складзецца на табе. Займіся таксама сваім здароўем, не адкладвай візіту ў спецыяліста. Добра высыпайся. На працы не бойся новага. Цяпер на рабоце будзеш здольны пайсці на кампраміс, дзякуючы чаму адобрыць цябе асоба, з якой ты канфліктаваўся.

**(20.02. — 21.03.)** Дамагайся канкрэтных дэкларацый на будучыню, каб пазбегнуць расчаравання. У пачуццях будзь асцярожны. Дома добра і свабодна. На працы дамагайся свайго, не вагайся брацца за новую работу, калі атрымаеш прапанову — справішся там дасканала. 3-5.04. чакаюць цябе нялёгкія размовы, без гарантыі на супольныя вызначэнні; нейнайлепшы час таксама на куплю ці продаж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

